
Год з АБ-БА-й ➔3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Васіль Быкаў ➔8

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3293) Год LXIV | Беласток, 23 чэрвеня 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Сустрэчы «Зоркі» — жывая нітка беларускай пісьменнасці

**— Думаю, што гэта вельмі файная справа — не сядзець у лаўцы і чытаць кніжкі, а вучыцца па-іншаму, — сказаў пад канец летніка Сустрэчы «Зоркі» Міколка Абрамюк.**

Бо лагер, які прайшоў ужо трыццаць трэці раз, гэта не толькі час адпачынку ад школьнай парты, але перш за ўсё час крэатыўнай працы са сваімі аднагодкамі. „Бел-news" і „Шэпты з шафы" — газеткі, якія ўзніклі ў час летніка, даказваюць, што сярод вучняў няма вялікіх складанасцей, каб пісаць па-беларуску і таксама ёсць ім аб чым пісаць.

Сёлета дваццаць адзін вучань са школ у Бельску-Падляшскім, Гайнаўцы, Нараўцы, Нарве, Залуках, Гарадку і Беластоку пазнавалі асаблівасці журналісцкай прафесіі. З 9 па 14 чэрвеня ў натхняльнай да працы аграсядзібе Бора-Зруй, што ў Белавежскай пушчы, прайшлі чарговыя журналісцкія майстар-класы Сустрэчы «Зоркі».

— Удзельнікаў чакае не толькі праца, але і адпачынак на прыродзе. Апрача навучання мы маем шмат часу на сяброўства, на сустрэчы з прыродай, — яшчэ на пачатку летніка сказала арганізатарка мерапрыемства Ганна Кандрацюк-Свярубская. — Наведаем шмат мясцін у Нараўчанскай гміне. Найважнейшае, каб ажывіць творчы дух. Ужо ў першы дзень узніклі вершы. Думаю, што так будзе да канца сустрэч, і мы ажыццявім гэтую жывую нітку беларускай пісьменнасці.



Сапраўды, на працягу тыдня адбылося вельмі многа сустрэч з выдатнейшымі беларусамі Падляшша, паездак і экскурсій. Некаторыя, як Наталля Кандрацюк-Свярубская (журналістка gazeta.pl) прыехала ў Пушчу амаль непасрэдна з Мінска. Міхась Сцепанюк расказваў пра свае падарожжы, якія магчымыя дзякуючы веданню замежных моў. Міра Лукша правяла майстар-класы для перспектыўных маладых паэтаў, а Яўген Вапа крыху яшчэ напалохаў, прадстаўляючы страшную і смешную ўяву народа без пісьменнасці. Нам гэта не пагражае, паколькі трэба біцца (інтэлектуальна) за месца на летніку, таму што папасці сюды могуць толькі тыя, якія актыўна ўключаюцца ў беларускае жыццё цягам усяго года.

— У нас заняткі беларускай мовы неабавязковыя, але я іх люблю, — сказала Юлька Грэсь з Непублічнай пачатковай школы ў Залуках. — Хачу яшчэ лепш ёю карыстацца. Сапраўды, я захапілася беларускай мовай, бо гэта мова майго бацькі, дзядоў. Я ў будучыні хачу стаць журналісткай і працаваць на Беларускім Радыё Рацыя, або ў «Ніве». Таму зараз пішу ў «Зорку».

Але Сустрэчы «Зоркі» даказваюць, што дасканаленне валодання роднай мовай не мусіць праходзіць толькі з нататнікам у руцэ. У рамках летніка ўдзельнікі наведалі Галерэю Тамары Саланевіч у Нараўцы, дзе можна было паглядзець выстаўку ікон Міхала Пякарскага, а таксама цікавую фотавыстаўку „Якуб Смольскі — вясковы фатограф з Лукі". Апрача таго пра пастаянную экспазіцыю і дзейнасць першай у ваяводстве вясковай галерэі расказвала па-свойму Кацярына Бляўская. Варта дадаць, што ўдзельнікі Сустрэч «Зоркі» гэта сапраўдныя паліглоты. Калі спытаць іх якія ведаюць мовы, адказваюць: польскую, беларускую, сваю... і г.д. Рэкардсмены, калі лічаць такім спосабам, могуць ганарыцца веданнем нават шасці моў.



— Усім рэкамендую Сустрэчы «Зоркі»! Гэта вельмі цікавы эксперымент, каб пагаварыць па-беларуску, падшліфаваць мову і пабачыць як выглядае праца журналіста, — сказаў сустрачанскі рэкардсмен па веданні моў Мікола Абрамюк. — Беларуская мова вельмі прыгожая ў граматыцы, яна вельмі добра гучыць. А „ў" кароткае гэта файная літара, якой нідзе ў другіх алфавітах няма. Беларуская мова з характарам!

Наталля Кандрацюк-Свярубская і Міхась Сцепанюк ахвотна расказвалі аб прафесіі журналіста. Адначасова яны пераконвалі маладых людзей, што варта вывучаць мовы — перш за ўсё трэба ведаць родную і паралельна развіваць свае захапленні і зацікаўлені. На самой справе гэта таго жывыя прыклады.

Удзельнікі Сустрэч «Зоркі» таксама адбылі экскурсію па турыстычных жамчужынах Нараўчанскай гміны. Але здаецца, што найбольш пра яе даведаліся ад мясцовых братоў Целушэцкіх — Янкі і Канстанціна. Янка — вядомы журналіст, наш карэспандэнт, які сам пачынаў прыгоду з пісаннем менавіта з „Зоркі". Канстанцін — паэт, які піша рэфлексіўныя, але і гумарыстычныя вершы, якія трапляюць у густ усіх, аб чым сведчыў шчыры смех як удзельнікаў летніка, так і іх апекуноў. Свае вершы зачытала таксама моцная Міра Лукша, вельмі папулярная ў школах дзякуючы зборнікам вершаў „Жывінкі з глыбінкі" ці „Спеў дрэў".

— Найбольш мне спадабалася сустрэча з Мірай Лукшай, — прызналася рэдакцыйная мастачка Юстынка Бакуменка. — Яна вельмі паэтычна чытала свае вершы. І было ў іх нешта, што кранула маё сэрца.

Сёлета на Сустрэчы «Зоркі» прыехала многа новых вучняў. Амаль палавіна з іх упершыню магла пераканацца, як выглядае сустрачанская рэальнасць. Файна, што старэйшыя вопытам сябры ўмелі заахвоціць новых удзельнікаў да пісання тэкстаў і рэдакцыйнай працы.

— Мне вельмі добра працавалася, — адзначыла галоўны рэдактар газеты „Бел-news" Эва Іванюк. — Мае сябры не пакінулі мяне адной з рэдакцыйнымі абавязкамі. Паўліна Ёдла была мне вялікай дапамогай. Я сама на пачатку спалохалася, што не спраўлюся з такім выклікам, але падумала сабе, што я сёлета ўжо апошні раз, я ў трэцім класе гімназіі, таму трэба выкарыстаць час да максімуму. Гэта быў плённы час. Перадапошняга дня мы да трэцяй гадзіны рабілі газету. Малявалі, перапісвалі. Думаю, што наша газетка атрымалася цікавай.

Канец Сустрэч «Зоркі» быў асабліва цяжкім старэйшым дзяўчатам не з-за працы, а з-за таго, што ўжо ў наступным годзе не патрапяць на летнік. Былі слёзы і доўгія развітанні, але той маркотны настрой таксама даў пачатак песні, якая можа стаць гімнам Сустрэч „Зоркі". Такі сустрачанскі тыдзень, хаця гэта толькі адзін тыдзень у годзе, крыху мяняе маладога ўдзельніка. На лепшае. Аб гэтым гавораць „старыя" ўдзельнікі, але найлепш самому пераканацца.

— Навучыўся я не быць такім лянівым, якім быў апошні год, — прызнаўся Міколка.

Я старалася рабіць усё на сто працэнтаў! — адзначыла Юлька Грэсь.

— Неяк так файней сёлета, чым у папярэднім годзе, — сказала Гося Асташэўская з Бельска.

— Як першы раз была на Сустрэчах «Зоркі» думала, што мяне не палюбяць, або не прымуць, — сказала Дар'я Нестэрук з Орлі, якая вельмі добра размаўляе па-беларуску і па-свойму. — Але кожны год вельмі добра сябе тут адчуваю і маю штораз больш сяброў.

Усе тэксты і мастацкія працы ўдзельнікаў Сустрэч „Зоркі" будзе можна паглядзець у „Зорцы" — нашым дзіцячым дадатку. Варта таксама сачыць за старонкай Сустрэчы „Зоркі" ў фейсбуку.

Безупынна арганізатарам Сустрэч «Зоркі» з'яўляецца Тыднёвік беларусаў у Польшчы „Ніва" пры фінансавай падтрымцы Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, а таксама войта Нараўчанскай гміны.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**





# Дадаць

Гэтым разам сітуацыя выглядае сапраўды значна больш сур'ёзна і небяспечна. Тады, калі кіраўнік Расіі крычаў, што Беларусь мусіць уліцца ў кантраляваныя ім тэрыторыі цалкам або часткамі, усё выглядала не так трагічна, бо людзі звычайна крычаць ад бяссілля. Гарляк у якасці апошняга аргумента выкарыстоўваюць, калі іншых аргументаў бракуе. Ну а крык як спроба запалохаць спрацоўвае не заўсёды — недзе так праз раз.

Гэтым разам начальнік Расійскай Федэрацыі прамаўляў спакойна, удумліва, разважліва, і заявіў на пленарным пасяджэнні Пецярбургскага міжнароднага эканамічнага форуму, што сёння няма аніякіх падстаў для дзяржаўнага аб'яднання Беларусі і Расіі. Маўляў, у яго, ці ў іх там, „няма такіх планаў, мэт няма...".

Тое, што такія планы і мэты ёсць, да гэтага ўжо ўсе даўно прызвычаіліся. Ды і кіраўнік Расійскай Федэрацыі іх асабліва то і не хаваў ніколі, тых планаў... А вось тут заявіў такое...

Ну мы то ўжо ведаем, што ў падобнай катэгорыі кіраўнікоў практычна кожнае выказванне ўтрымлівае элементы дэзынфармацыі. Тым больш, што ў сваёй прамове кіраўнік усходняй краіны чарговы раз прасвяціў нас у галіне антрапалогіі, генетыкі, культуразнаўства, гісторыі, і іншых навук падобнага кшталту, заявіўшы, што па яго глыбокім перакананні беларусы і рускія „усё ж такі адзін народ, але так склалася, што мы жывём у розных краінах, розныя дзяржавы ўтварыліся..." (гэтым разам украінцаў у адзін народ ён сціпла не дадаў).

Пра сапраўдныя прычыны і гістарычныя прадпасылкі ўтварэння ўсё ж розных дзяржаў расійскі лідар не абмовіўся. Або не ведае пра іх, або ведаць не хоча, а можа і ведае сам, але не хоча, каб ведалі іншыя. Ну а пра адзін народ можна без асаблівай напругі казаць пра кожнага з кожным, бо ўсе, маўляў, пайшлі ад Адама і Евы, і таму ўсе людзі — браты родныя, незалежна ад таго, хто ў далейшым стаў сынамі Авеля, а хто Каіна...

Ну вось, зараз гульня ўжо пайшла падарослаему, хоць прэтэнзій на паняцці „аб'яднанне", і тым больш на „далучэнне" не прагучала. Можа таму, што ні ў Крыме, ні ў Данецку з Луганскам яны не пракацілі, плаўна перафарматаваўшыся ў міжнароднай тэрміналогіі ў больш ёмістае і канкрэтнае слова „анексія". Гэтым разам кіраўнік усходняй суседкі Беларусі, скарыстаўшы хіба што ўкраінскі досвед, стаў апеляваць больш размытымі паняццямі, такімі як „план будаўніцтва Саюзнай дзяржавы Расіі і Беларусі". Пахваліўся, што абмяркоўваў гэтую тэму з беларускім кіраўніком, якога паважна назваў па імені і імені па бацьку, і адзначыў, што ў гэтым кірунку многае зроблена. Ну а зараз, маўляў, ці можна „ў новых умовах сённяшняга дня (што гэта за новыя ўмовы не канкрэтызавалася) нешта выканаць з таго, што не зроблена, альбо дадаць з таго, што цяпер з'яўляецца актуальным...".

Асабліва кідаецца ў вочы слова „дадаць". Што менавіта ён хоча „дадаць"? Бо такія словы, што гаворка двух кіраўнікоў „ішла абсалютна канструктыўна і па-таварыску", гэта старая песня з парушаным рытмам, рыфмай і аранжыроўкай. А вось слова „дадаць" без указання, што там усё ж дадаць, тут, як гаворыцца, не даць, не ўзяць.

Можна толькі здагадвацца, што хочуць „дадаць". Хоць і гэта не цяжка, калі ўсё прааналізаваць. Паводле тых размытых фармулёвак больш набліжаныя да канкрэтных спраў прэм'еры зноў аднавілі абмеркаванне магчымасці ўвядзення адзінай валюты...

Ну а беларускі амбасадар у Расіі ўвогуле настальгічнымі пачуццямі зліўся з расійскім кіраўніком ва ўнісон, ды слёзна заявіў, што „большасць беларусаў і расіян сёння, напэўна, шкадуюць пра распад вялікага Савецкага Саюза...".

Трэба аддаць усё ж яму належнае, але слова „напэўна" ён абачліва ўцісну ў сярэдзіну сваіх выказванняў. Ну не сцвярджаў на 100% што так яно дакладна і ёсць. Можа, як чалавек з вялікім досведам і значна большай чым у нас інфармацыяй, добра ведае, што Саюзная дзяржава на Беларусі не закончыцца. З яе толькі пачнецца. І прыйдзецца пад тых, хто „напэўна" шкадуе, дабаўляць і іншых — каго „добраахвотна", а каго, дзеля іх жа дабра, і больш важкімі аргументамі.

Ну але зараз ключавым усё ж ёсць слова „дадаць". Думаю, што вельмі хутка нам дадуць расшыфроўку, бо ўжо і міністры, а праз пару дзён і прэм'ер-міністры Беларусі і Расіі зноў спешна сустракаюцца...

**Віктар САЗОНАЎ**

# Аб інваліднасці

Для чытання я выкарыстоўваю (некалькі мазахістычна)... фатэль. Зялёны. Яго колер тут нічога не значыць, хоць я хацеў бы паверыць, што зялёны заўсёды прыносіць станоўчыя кашто ўчыя... Існуе таксама другі, больш зручны фатэль колеру выцвілай цэглы, але яго прысабечыла сучка Ляля — знайдуха, якая так ставіцца да людзей, як яны ставяцца да яе. Значыць, бязлітасна. Таму Ляля спіць на ім і нават чухаецца. Добра, што не ставіцца да яго як да стала. На шчасце другі з маіх сабачак, з якім так як і Ляляй жорстка абышліся ў мінулым «добрыя людзі», упадабаў невялікі дывано к, што закрывае шчыліны ў падлогавых панэлях. Эх, гэтыя падляшскія майстры... Аднойчы я збяруся і напішу пра іх вельмі дрэнны раман! Гэта не кампенсуе шкоды, але дасць патэнцыйным чытачам матэрыяльны доказ іх халтуры. Халтура гэта наш нацыянальны характар. Яна не столькі схаваны, як старанна замаскіраваны дэфект нацыі. Абыштоськасць і блінізм нельга растлумачыць толькі складанай гісторыяй краіны. Што падзелы, дзве вайны, камуна... Балбатня. Перш за ўсё самі ствараем сваю гісторыю.

У зялёным фатэлі я магу сядзець спакойна, сядзець у ім лягчэй, чым выбрацца з яго — што таксама мае наступствы. Таму што калі я пачынаю чытаць, пагрузіўшыся ў ім па самую галаву, мушу дачытаць да канца. Але неабавязкова таму, што я так захапляюся чытаннем. На саму думку, што трэба спачатку выкараскацца з гэтага фатэля, каб пашукаць больш цікавую кнігу, мінае ахвота, каб устаць. Таму чытаю ад корачкі да корачкі тое, што пачаў чытаць. Такім чынам зялёны фатэль палоніць мяне да чытання. Я не супраць. Нават тады, калі я павінен чытаць заявы некаторых палітыкаў. Не важна, з якога боку польскай палітычнай сцэны. У любым выпадку, яны на самой справе не будуюць. Да таго ж польскія палітыкі рэдка што-небудзь будуюць у сваіх выступах. Хутчэй за ўсё спецыялізуюцца на зносе. Быццам бы лепш знішчыць падмуркі, каб будаваць новыя з самага пачатку. Ці яны лепшыя?

Ёсць людзі, якія маюць патрэбу ў адпаведных акулярах, каб чытаць. Я, з-за сур'ёзнай блізарукасці, не ў стане абысціся без карэкцыруючых акуляраў, час ад часу павінен іх здымаць. У адваротным выпадку не ўбачу літар. Без акуляраў, калі я падымаю вочы з-над кнігі ці газеты, губляю прастораву арыентацыю. Контуры сцен, падлогі і столі губляюць гарызантальна-вертыкальны азімут, іх лініі свабодна і хаатычна праніка юць, так што фон, які звычайна робіць іх бачнымі, змешваецца з імі. Прастора пазбаўляецца тады эўклідавай развязнасці. Паяўляюцца геаметрычныя гіпербалы або парабалы... Далей гэта пытанне фантазіі. Або веданне маштабнай касмічнай фізікі. У першым выпадку ідэя заключаецца ў тым, каб прыручыць уяўленне своечасова. У другім — прызнацца да ўласнага невуцтва. У любым выпадку, калі мы не будзем упарта прытрымлівацца цвёрдай зямлі, што не значыць, што мы аўтаматычна знаходзімся на нябёсах. Гэта мараль для польскіх палітыкаў! Але не толькі пасля... Таму я вяртаюся да рэальнасці, надзеўшы акуляры, альбо вяртаюся да перапыненага чытання. Каб павялічыць чытво, набліжаю «голыя» вочы да друкаванай паперы, больш-менш на адлегласць двух даўжынь носа. Аднак гэта не пастаянная мера. Калі радок шрыфтоў раптам выходзіць у друк з дапамогай звычайнага курсіву, я павінен часова паменшыць гэтую адлегласць. Для вонкавага назіральніка можа здацца, што я чытаю кончыкам носа. І ёсць і некаторыя з маіх знаёмых, якія нават сцвярджаюць, што на маім носе выраслі ў замену візуальныя рэцэптары, усе гэтыя нервовыя тычачкі, якія звычайна змяшчаюцца ў вачах чалавека. Я не адмаўляюся ад гэтай тэорыі, але я таксама не пацвярджаю. Аднак цікава, што нос мне баліць часцей, чым вочы ад доўгага чытанняў. Я чытаю, як чытаю. «Сядзіць з носам уторкнутым у кнігу» — гэта пра мяне.

У мяне толькі адна праблема з друкаванымі літаркамі. Каб паставіць іх у разумную паслядоўнасць, трэба іх нейкім чынам пусціць у рух. Кожны нармальна бачыўшы чалавек бачыць вачыма. Гэта значыць, трымаючы нерухома галаву, ён сочыць за бачнай колькасцю друкаваных слоў рухам вачэй. Часам ён ківае на тое, што чытае, часам, неадабраючы тэкст, матае галавой. Я заўсёды чытаю галавой, што выглядае так, як быццам я заўсёды крытычна ацэньваю тэкст, які чытаю, таму што матаю галавою туды-сюды. Але я не толькі чытаю крытычна, таму што чытаю таксама «грытычна». Заклікаю вас заўсёды чытаць «грытычна», усёй галавой. Парушэнне зроку не ўплывае на інваліднасць мозгу.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Жара і турысты

Ой жара, духата, спякота — такія словы найчасцей ліліся з нашых вуснаў цягам апошніх двух чэрвеньскіх тыдняў. Разам з імі ліюцца, п'юцца і выкідваюцца мільёны пластмасавых, неэкалагічных бутэлек. Кожны ратуецца толькі сабе вядомымі спосабамі. Сутыкненне з такой жарой гэта ўжо не прыемнасці лета ці вакацыйнага адпачынку, але проста зямны кашмар. З розных бакоў блізкага ці далёкага замежжа ў інфармацыйнай прасторы лёталі весткі пра пабітыя рэкорды велічыні тэмпературы ў гэтым перыядзе. Можа гэта таксама такія, нейкія ўказанні Усявышняга наконт таго месца, куды вядзе нас, грэшнікаў, і што можа там нас чакаць. Анармальная спёка і ёсць тым момантам у чалавечым жыцці, якая складае рэальную пагрозу для нечаканага завяршэння быцця цяпер і тут. Калі ўзяць пад увагу абарончае паслабленне імунітэту арганізма такімі павышанымі градусамі, то і нашы мазгі таксама плывуць дзесьці ў неспазнаныя месцы разам з яго ўласнікамі. Працэс лагічнага думання і рацыянальных рашэнняў у гэты момант проста слабее, а можа не існуе. Таму хіба ў такім перыядзе добра відаць, якую яшчэ большую лухту і херню патрапяць гарадзіць некаторыя палітыкі і чыноўнікі па ўсёй зямной прасторы.

Але ёсць таксама і такая частка чалавечага роду, якая проста абажае жару і спёку. Ведаю шмат людзей, якія ў гэты перыяд падаліся ў турыстычныя вандроўкі ў яшчэ больш цёплыя краіны. Падарожнічаюць яны не толькі самалётамі, але на ўласных машынах і аўтобусах. Прытым запэўніваюць, што не адчуваюць аніякай стомленасці. Верыць іхнім запэўніванням, ці не — ужо сам не ведаю. На здаровы розум гэта няпраўда, але калі свет стаіць усялякімі анамаліямі, то чаму ж не можа быць і такога. Відаць, спрацоўвае тут нейкі псіхалагічны працэс спланаванага адпачынку і эфект плацэба ад замежнай паездкі. З пункту гледжання напрамкаў турыстычнага руху цікава, ці жара прынясе, напрыклад, зацікаўленне і турыстычны зварот у краіны вечнай зімы і марозу? А можа ёсць так, што крутыя бізнесмены і багацеі ўжо даўно павыкуплялі там свае зямныя ўчасткі. Адным словам, будуць мець дзе схавацца, а пры нагодзе можна добра здзерці шкуру ад прагных уцячы ад празмерна пранізлівых сонечных промняў.

Пры такіх хістаннях надвор'я здавалася б, што наша Падляшша са сваім прыродным багаццем і нацыянальнымі паркамі павінна быць тым месцам, у якое будуць перціся турысты са сваімі поўнымі кашалькамі. І то круглы год. Такога аднак не бывае. Зусім нядаўна Міністэрства фінансаў прадставіла рапарт наконт фінансавых вынікаў нацыянальных паркаў у Польшчы. З ліку 23 паркаў аж 17 мела свой станоўчы вынік. Найбольш, што не здзіўляе нікога, зарабіў Татшанскі нацыянальны парк — 3,5 млн. злотых. Зараз глянем, якія вынікі маюць нашы падляшскія аазісы прыроды. Тры з чатырох дзейсных паркаў атрымалі прыбытак, хаця не такі, які можна назваць вялікім поспехам. Адзіным тут стратным з'яўляецца як не дзіўна.... Белавежскі нацыянальны парк, які з шасці дэфіцытных нацыянальных паркаў у Польшчы прынёс затрату велічынёю ў 133 тысячы злотых. Негатыўным рэкардсменам з'яўляецца Волінскі нацыянальны парк з дэфіцытам 1,6 млн. злотых.

Найбольшы прыбытак у нашым рэгіёне мае Вігерскі нацыянальны парк — звыш 900 тысяч злотых за мінулы год. Бебжанскі парк зарабіў каля 500 тысяч, а Нарвянскі — 89 тысяч злотых.

У маштабе краіны ўсе польскія нацыянальныя паркі за 2018 год атрымалі фінансавы прыбытак велічынёй звыш 239 млн. злотых, аднак кошты іх утрымання перавысілі прыбытак і склалі 279 млн. Як відаць гэта розніца ў кошт дзяржаўнага бюджэту састаўляе 40 млн. злотых. Дырэктар Белавежскага нацыянальнага парку Міхал Кжысяк сітуацыю парку тлумачыць тым, што няма прыбытку ад продажу дрэва з парку і што турызм мае тут выключна сезонны характар у выглядзе экскурсій школьнікаў і працоўных перад канікуламі і ранняй восенню. У другія поры года людзі выбіраюць горы і мора. От такая проста жыццёвая праўда, ад якой не ўцячэш.

**Яўген ВАПА**

# АБ-БА — разам вучымся і гуляем

**Аб'яднанне ў карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову АБ-БА, гуртуючае ў сваіх моцных шэрагах таксама бацькоў, як штогод падвяло вынікі працы пазаўрочных заняткаў на ўрачыстым канцэрце ў Лялечным тэатры ў Беластоку.**







10 чэрвеня ў гарачы чэрвеньскі адвячорак у будынак у цэнтральным парку Беластока, побач азяленелай філармоніі (тут таксама прымаюць творчы ўдзел таленавітыя вучні-беларусы, між іншым Аляксандр Хаманюк) да будынка лялечнага тэатра вялі спешныя крокі бацькоў, дзядоў і калег школьнікаў, якія мелі паказаць плён сваёй творчай працы ў школьным 2018/2019 годзе. Працуючы і гуляючы ўвесь школьны год, вучні — ад малечаў, да гімназістаў пад вокам настаўнікаў і інструктараў падрыхтавалі багатыя пастаноўкі. Прынялі ў іх удзел усе вучні, якія вывучаюць беларускую мову, а да сцэнічнага афармлення далучыліся і іх бацькі. Тут заслуга бацькоў і ў шчырай пільнасці ўвесь год пры падрыхтоўцы сваіх маладых артыстаў, і лагістыцы, паколькі пазаўрочныя заняткі займаюць шмат часу і догляду. А маладыя мастакі выступаюць не толькі на беластоцкіх сцэнах, але і ў краіне, і нават за мяжой, прывозячы ў Беласток трафеі і прызы.

— За год зроблена шмат, ёсць новыя ўзнагароды, але не гэта галоўнае, — кажуць інструктары Аксана Прус і Кірыл Лепай.

У праграму канцэрта ўвайшлі новыя спектаклі ў выкананні ўдзельнікаў Тэатральнага гуртка „Гульня ў тэатр" — „У дзяржаве мурашынай", „Чорт і баба" (інструктар Іаанна Троц), „Бураціна" (інструктар Бернард Мацей Баня, разам з Алінай Ваўранюк), а таксама танцавальныя і вакальныя нумары ў выкананні Беларускага дзіцячага ансамбля танца „Падляшскі вянок" (інструктар Аксана Прус) і гурта „Баламуткі" (інструктар Кірыл Лепай).

— Дзеці працуюць, ведаюць, што харэаграфічная праца цяжкая, — кажа Аксана Прус.

— Вельмі стараюцца, хочуць працаваць. Самае галоўнае, каб кожны ў сабе ўнутры нёс беларускую культуру, меў да яе павагу. Самае галоўнае дасягненне гэта тое, што дзеці вучаць беларускую мову, літаратуру, гісторыю. Яны на гэтай мове вучацца іграць на сцэне, танцаваць, спяваць дзякуючы гэтай мове, — адзначае Кірыл Лепай.

— У гэтай працы можам пабачыць эфект працы ўсяго года, — кажа старшыня аб'яднання АБ-БА Уршуля Іванюк, мама дзвюх мастачак, — шчырую працу дзяцей, якія ўвесь год працавалі і гулялі пад вокам аб'яднання. Сёння на пастаноўках вітаю гасцей, між іншым упаўнаважанага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, дэпутата ваяводскага сейміка, прадстаўнікоў іншых беларускіх арганізацый. Гэта сведчыць аб тым, як дацэньваецца наша праца з маладым пакаленнем, якое будзе працягваць нашу культуру і плённае існаванне нашай меншасці ў Польшчы. Хачу падзякаваць таксама інструктарам якія працавалі з нашымі маладымі мастакамі — Аліне Ваўранюк, Кірылу Лепаю, Ганне Комінч, Іаанне Троц, Аксане Прус і Бэрнарду Мацею Бані, які не першы раз памагае ставіць штораз большыя тэатральныя пастаноўкі дзяцей і моладзі. Імпрэзу павядуць Кася і Марыся.

— Сардэчна вітаем у гэты асаблівы дзень моладзь, настаўнікаў, бацькоў, дзядуляў і ўсіх гасцей, якія не пашкадавалі часу і прыйшлі, каб правесці яго з намі. Вы ўжо пачулі «Купалінку» ў выкананні гурта «Баламуткі» — заняткі з імі вёў Кірыл, — пачалі мілае мерапрыемства Кася і Марыся. — У гурце прымаюць удзел вучні пачатковай школы. Працу гурта дафінансоўвала Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. На сцэну выйдзе танцавальны гурт «Падляшскі вянок», якога мастацкім кіраўніком з'яўляецца Аксана Прус. Вядзе яна заняткі і апрацоўвае харэаграфію ўсіх танцаў. У ансамблі працуюць дзве ўзроставыя групы. Дафінансавала іх, апрача МУСіА, таксама Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства. «Падлшяскі вянок» пачне выступленне беларускім танцам «Лявоніха»... Выступаць у танцы ўсе ўдзельнікі ансамбля...

Іаанна Троц паставіла з маладымі акцёрамі п'есы «У дзяржаве мурашынай» ды «Чорт і баба». Асабліва зладжана гулялі мурашы — і «цывільныя», і армія, а ў еднасці — сіла. Уся зала ім апладзіравала шчыра і з сапраўдным захапленнем.

Супольныя выступленні на вялікай сцэне дадаюць і адвагі. У мастацтве, але і ў жыцці. Удзельнікі «Гульні ў тэатр», танцавальных і вакальных выступленняў вучацца панаваць над голасам, целам, уласнай сціпласцю, паказваюць сваю самасць. І хаця спачатку голас можа крышку задрыжаць, ён ціхі, з часам выступлення ён мацнее, аж да адкрытага, белага, поўнага свядомага голасу, спеву ў беларускай традыцыі. Захапіла Ніка Паўлоўская, якая пад вакал Кірылы спявала «Рэчаньку». Сапраўды, вібравалі сцены шаноўнага тэатра! Усе выступілі выдатна, а найбольшую ўвагу прыцягвалі салісты — Сара Скаўронская ў «Птушыным двары», Мікола Здрайкоўскі ў «Падыспан па-падляшску», чацвёра акцёраў, якія выконвалі ролю Бураціна ў пастаноўцы класічнага тэксту пра драўлянага паяцыка, які на канец стане добрым хлопчыкам — Шыман Клімюк, Мэлька Чурак, Юлька Савіцкая і Марыся Пякарская.

— Толькі скончыліся вакацыі — а мы ўжо на канцэртах, — з гонарам успамінала Аксана Прус. — Сольныя канцэрты ў Вармінска-Мазурскім рэгіёне, на беларускім свяце ў Орлі. У кастрычніку мы паехалі ўжо з сольнай праграмай у Гародню. У рамках дамовы паміж Аб'яднаннем АБ-БА і Гарадзенскім каледжам мастацтваў. У студзені 2019 года адбыліся нашы першыя танцавальныя варштаты, якія праводзіла я і мой вучань Ігар Гелдзінскі з Беларусі. Люты таксама быў вельмі цікавы — упершыню нашы ўдзельнікі ў намінацыі «народны танец» і «тэатр» атрымалі вельмі значныя ўзнагароды — стыпендыі Маршалка Падляшскага ваяводства за мастацкую творчасць. Былі гэта Марыся Пякарская, Сара Скаўронская, Кацярына Іванюк, Мікалай Здрайкоўскі. Атрымала стыпендыю таксама Юля Баравік, якая да нас далучылася, і наша новая ўдзельніца за музычнае мастацтва Марыя Хадакоўская. Зімой мы ўдзельнічалі ў Вялікім аркестры святочнай дапамогі. У сакавіку да нас прыехалі ў госці «Гарадзенскія каруначкі» і мы разам змаглі падрыхтаваць новую праграму, новыя танцы, якія вы бачылі ва Універсітэцкім цэнтры культуры. Важны быў таксама конкурс, які адбыўся ўчора — Ваяводскі агляд народных песень і танцаў. Мы мелі два гады таму трэцяе месца, а сёлета мы здабылі два дыпломы лаўрэатаў — два другія месцы, у малодшай і старэйшай катэгорыі! Была вялікая канкурэнцыя! Я вельмі ўдзячная, што нам удалося падняцца на ступень вышэй. Думаю, што наступны агляд нам падорыць першае месца. Вельмі добра, што нашы планы супадаюць з тым, як развіваецца наша мастацкая творчасць. Дзякуючы таму, што была створана новая праграма і таму, што шмат дзяцей і шмат бацькоў уклалі свае сілы ў развіццё гэтай праграмы, мы былі запрошаны на шмат якія мастацкія здарэнні на Падляшшы і ў Польшчы. Аглядайце нас ужо ў ліпені падчас Падляшскай актавы культур, на рэгіянальным фестывалі «Піраточа» ў Белавежы, у жніўні будзем у Браньску на міжнародным дзіцячым конкурсе, а ў верасні едзем у Венгажэва на міжнародны фестываль дзіцячых фальклорных калектываў усяго свету! А сёння падорым вам яшчэ адну цікавую прэм'еру — «Слуцкія ткачыхі». Пастараемся пераказаць усю любоў да працы і нашай беларускай культуры. Музычная апрацоўка Уладзіміра Мулявіна, знакаміты верш Максіма Багдановіча...

Марыя Здрайкоўская:

— Прыйшоў час на падзякі. Не толькі вучням, але і бацькам, якія пасля сваіх штодзённых прац і абавязкаў пасвячаліся нам. Дзякуючы вам вашы дзеці ёсць тут, вашы дзеці робяць тое, што любяць, дзякуючы вам мы маглі ўсё тое пабачыць. Запрашаем на сцэну па сімвалічную кветку ад імя ўправы Аб'яднання АБ-БА: Кацярыну і Яраслава Лісоўскіх, Аню Радзівон, Мажэну Паўлючук, Крысціну Чурак, Адама Паўлоўскага, на якіх заўсёды можам разлічваць. Дзякуем таксама інструктарам — за вашу працу, цярплівасць, сэрца — Аліне Ваўранюк, Аксане Прус, Ганне Комінч, Кірылу Лепаю і Мацею Бернарду Бані.

— Як выступалася? — пытаюся ў Міколы.

— Нармальна.

Аліна Ваўранюк урачыста ўручыла ўзнагароды на развітанне са школай вучням гімназіі.

— Дзякуем за падарункі Радыё Рацыя і тыднёвіку «Ніва», — узрушана сказалі вучні, якія таксама выйшлі з падмосткаў «Гульні ў тэатр» і пойдуць далей.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

## Час на ўспаміны

Гэта было чатырнаццаць год таму. Праваслаўныя вернікі, як і сёлета, у нядзелю 16 чэрвеня 2005 года адзначалі Сёмуху, інакш кажучы Тройцу. Стаяла тады пераменнае надвор'е. Неба закрывалі хмары, праз якія прабіваліся сонечныя промені. Да святкавання за мяжою ў сямейнай кампаніі суродзічаў падгаварыла пляменніца Ларыса, дачка старэйшай сястры Яўгеніі. Прыняў я прапанову, паколькі і сам насіўся з такім намерам. У Вярховічах пражываў дваюрадны брат Васіль Селях, а ў пасёлку Юўсічы — сястра Оля. Матуля наша выходзіла з Апакі-Дварца, як даўней называлі Апаку-Малую. У пасляваенны час мяжа раздзяліла шматлікія сем'і. У шасцідзясятых гадах наведваў я з сястрой Геняй Апаку-Малую, у якой пражывалі дзядзька Косця з цёткай Лідзіяй. У суседняй вёсцы Далбізна абсталяваліся іхнія дочкі Таня Кандрацюк з мужам Аляксеем, ды Марыя Панасюк з мужам Мікалаем. Аляксей працаваў кавалём у калгасе, а Мікалай займаўся сталяркай. Глядзеў я тады з-пад хаты дзядзечкі Косці на камін насычальні ў Чаромсе і здавалася, што гэты чатырохкіламетровы прамы прамежак праз мяжу праскочыў бы ў паўгадзіны. Гэта ж як рукой падаць. Паколькі мы атрымалі вызаў ад сястры Олі, якая пражывала з бацькамі ў Апацы, дык там і кватаравалі. У пасляабедні час запрашалі нас у госці Марыя з Танюшай у Далбізну. Запамяталася мне гасціна ў Панасюкоў. Марыі дачка, Ніна, была ў сужонстве з сынам старшыні калгаса Туманькова. Гэты служыў афіцэрам Савецкай Арміі ў ГДР. Калі сустрэліся адвячоркам пры застоллі, дык „прэдсядацель" пачаў распытваць гаспадароў, хто мы такія ды як трапілі ў Далбізну. Аргументацыя, што мы дваюрадныя дзеці не пераманіла стаўлення Туманькова да нас. Надалей глядзеў у наш бок непрыязным зрокам. Але наступнага дня, калі мы прынялі гасціннае запрашэнне шафёра Туманькова Мікалая Аксюціча і спаткаліся ў яго на кватэры ў Альвусе, дык „прэдсядацель" быў дашчэнту збіты з панталыку.

— Ды што цябе з гэтымі палякамі спалучае? — раззлаваны дапытваўся начальнік.

І яго асабісты шафёр вымушаны быў расказаць падзею ваеннага часу, якая сустрэла яго, тады трынаццацігадовага падлетка ў час перастрэлкі савецкіх партызан з немцамі ў нашай хаце. Вось як тады ставіліся савецкія „палітрукі" да польскіх грамадзян. Да ад'езду дамоў мы больш не спаткаліся са старшынёй Туманьковым. Гасцяваўшы ў Далбізне, заўважыў я дзіўную звычку калгасных мужыкоў. Паколькі кватэра сястры Марыі межавала з магазінам, дык назіраў я праз акно, як раніцай развозілі рабочых на машыне на палявыя работы. А сёмай шафёр спыняў машыну перад крамай. Выходзілі мужчыны. Жанчыны заставаліся ў кузаве. Машына з кабетамі падавалася ў поле для праполкі буракоў, мужчыны ласаваліся своеасаблівым напіткам. Заставаліся там да адзінаццатай гадзіны. Перад адзінаццатай калгасніцы вярталіся з поля. Да жаночай кампаніі далучалі падхмеленыя мужыкі і разам падаваліся на абедні перапынак. Так было амаль штодзень у час майго гасцявання ў швагра Мікалая Панасюка. Іншае прыйшлося пабачыць, калі заходзіў у калгасную кузню да швагра Аляксея Кандрацюка. Але аб гэтым у чарговым допісе.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**




# Юбілейная культура на сходах

Падчас пятнаццатага юбілейнага Беларускага этнаграфічнага фестывалю «Культура на сходах музея», які 2 чэрвеня прайшоў на пляцоўцы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы, сабраныя маглі паспрабаваць зрабіць гаршчок, ці выткаць палавік, працуючы пад наглядам вопытных народных творцаў, паглядзець вырабы народнага рукадзелля. Публіку частавалі бульбянымі дранікамі, каўбасой і іншымі вырабамі мясцовай кухні. З нагоды юбілею на сцэне займальна запрэзэнтаваліся лепшыя беларускія калектывы. Фестываль доўжыўся гадзінамі. Калі музейную пляцоўку пакідала найстарэйшая публіка, яе месца займалі малодшыя асобы, у тым ліку бацькі з дзеткамі.

Ужо пасля абеду каля Беларускага музея ў Гайнаўцы пачалі збірацца гайнаўяне і жыхары суседніх мясцовасцей. Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на сходах музея» пачаўся з дажджу, а моцны вецер перакуліў і знішчыў адну з палатак. Сабраныя хаваліся пад іншыя палаткі. Вецер і дождж хутка мінулі і зноў стала цёпла і сонечна. Са сцэны фестываль «Культура на сходах музея» адкрылі бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук і дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк. Бургамістр Ежы Сірак адзначыў вялікую ролю музея ў папулярызацыі беларускай культуры і мясцовых традыцый ды пажадаў яму шматлікіх прыхільнікаў і спонсараў. Другім выступіў дырэктар Гайнаўскага белліцэя Ігар Лукашук, які звярнуў увагу на козыры Гайнаўкі — прыроду, пушчу, людзей і дзейнасць белмузея ў галіне беларускай традыцыі і культуры. Дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк прыгадаў гісторыю беларускіх этнаграфічных фэстаў, якія з часам сталі этнаграфічным фестывалем «Культура на сходах музея». Паінфармаваў ён пра галоўныя атракцыёны сёлетняга фестывалю, які пачаўся тэатральна-музычнай пастаноўкай «Рэпка» ў выкананні дашкольнікаў калектыву «Калебка» Прадшколля № 1 у Гайнаўцы. Дзеткі дэкламавалі таксама вершыкі, з якімі выступілі падчас конкурсу «Роднае слова». Калектыў «Калебка», падрыхтаваны настаўніцамі Міраславай Ніканчук, Алай Супрун, Вольгай Вілюк і Эвай Шыманскай, быў узнагароджаны бурнымі апладысментамі.



Фестываль пачаўся з выступу калектыву дашкольнікаў «Калебка»



Працаваць за кроснамі вучыла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова



Оля Мілішэўская за ганчарным колам

Фестываль паспяхова вёў настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі. З нагоды юбілею фестывалю «Культура на сходах музея» правёў ён міні-конкурс на тэму дзейнасці Гайнаўскага белмузея. Дзеткам і дарослым было падрыхтавана многа атракцыёнаў. Перш за ўсё можна было павучыцца рукадзеллю. Ганчарнаму рамяству навучаў Міраслаў Пяхоўскі з Чорнай-Всі-Касцельнай, які дапамагаў наймалодшым *раменснікам* фармаваць з гліны гаршкі. Спадар Пяхоўскі на фэстах прапануе свае гліняныя гаршкі і збанкі. Раней маса купляла ў яго традыцыйныя сівакі, а цяпер лепш прадаюцца каляровыя гаршкі.

— Я выконваю гліняныя вырабы. Самыя цікавыя — гаршкі і збанкі ў натуральных колерах, атрыманых у ходзе выпальвання, — патлумачыў Міраслаў Пяхоўскі.

Другі выканаўца Оля Мілішэўская адважна і цікава выступіла з беларускімі дзіцячымі песнямі, за якія атрымала вылучэнне ў конкурсе «Беларуская песня» ў Бельску-Падляшскім. Пазней Оля паспрабавала выканаць гаршчок на ганчарным коле і выдатна справілася са сваёй работай.

— Цікава было выконваць гліняную пасудзіну, якую бяру дамоў на памятку. Я — вучаніца Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы. Спяваць вучыць мяне настаўніца беларускай мовы і музыкі Марыя Крук, — сказала Оля Мілішэўская.

Працаваць за кроснамі дзетак вучыла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова.

— Каб навучыцца ткаць, трэба прызначыць больш часу. Тут дзеткі маюць магчымасць працягнуць нітку, стукнуць кроснамі і гэта пакідае ў іх незабыўныя ўражанні, — заявіла Ірэна Ігнацюк.

Беларускую літаратуру, вырабы з беларускімі матывамі і іншыя сувеніры можна было купіць у белмузейнай краме. Далей прадаваліся іншыя сувеніры, ласункі і цацкі, якія цікавілі шматлікіх дзетак. Многа іх заходзіла таксама ў гарадок гульняў.

Шэсць гадоў перад будынкам Гайнаўскага белмузея, а калі было холадна, то ў музейных памяшканнях ладзіліся этнаграфічныя фэсты, прысвечаныя розным рамёствам. Выступы вакальных калектываў найчасцей адбываліся на музейных сходах.

— Мы рашыліся спалучыць фэсты ў адно мерапрыемства і назваць яго фестывалем, каб павысіць яго значэнне і прыцягнуць больш людзей на музейную плошчу. Публіцы прапануем між іншым беларускую музыку, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк і ўдакладніў, што сёлетні фестываль арганізаваўся з фінансавай падтрымкай Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі, Управы горада Гайнаўка, Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства, Павятовага старасты ў Гайнаўцы і шматлікіх спонсараў.

— Спачатку ладзіліся тут этнаграфічныя фэсты, прысвечаныя апрацоўцы ільну, ткацтву, ганчарству, падрыхтоўцы страў з бульбы. Сёння таксама можна паспрабаваць смажаныя бульбяныя дранікі і іншыя стравы з бульбы, — заявіла жанчына з Гайнаўкі.

Прадстаўнікі Майстар-класаў па працатэрапіі ў Гайнаўцы прапанавалі купляць рукадзелле, якое выканалі іх удзельнікі. З Нараўчанскай гміны прыехала Тамара Зубрыцкая, якая выконвае сувеніры, тэматычна звязаныя з Белавежскай пушчай.

— Многа памятак я раблю ў драўніне. Прадаю іх у Нараўцы і падчас беларускіх фэстаў у іншых мясцовасцях, — сказала Тамара Зубрыцкая.

— У час фестывалю прэзентуюцца традыцыйныя рамёствы і адбываецца дэгустацыя страў з бульбы і мясных вырабаў. Прапануем таксама беларускую літаратуру і народнае рукадзелле, — гаварыла Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

Чарга гайнавян выстойвала каля палаткі, дзе Магда Кос і Анна Франкоўская смажылі бульбяныя дранікі і рыхтавалі іншыя бульбяныя стравы. Уладзімір Ціханюк заахвочваў частавацца бутэрбродамі са свойскай каўбасой і вэнджаным бачком, якія з жонкай выконвае паводле свайго рэцэпта.

Беларускія калектывы запрэзентаваліся з цікавым рэпертуарам. Займальна спявалі жанчыны з народных калектываў «Надзея» і «Каханачка» з Пружанскага раёна.

— Мы найбольш спяваем беларускія народныя песні. З такім рэпертуарам выступаюць дзясяткі вакальных калектываў, якія дзейнічаюць у Пружанскім раёне. Выступаем на многіх музычных мерапрыемствах, якія ладзяцца ў нашым раёне і па-за ім. Бачым вялікую зацікаўленасць публікі беларускімі народнымі песнямі, — заявілі спявачкі з Пружанскага раёна.

Выступілі яшчэ калектывы «Ас» з Беластока, «Арт-Пронар» з Нарвы і «Немаральная прапанова» з Беластока. Публіку захапіў калектыў беларускай песні «Маланка» з Бельска-Падляшскага, якога дзейнасцю з 1990 года кіруе Сяргей Лукашук. Зараз «Маланка» дзейнічае пад патранатам Музея малой айчыны ў Студзіводах.

— За 29 гадоў нашай дзейнасці мы выступілі больш за 600 разоў, у тым ліку ў Францыі, Нямеччыне і Расіі. Найбольш нашых замежных выступаў, зразумела, было ў Беларусі. Запісалі мы больш за 160 беларускіх песень, якія выдалі на шасці магнітафонных касетах і пяці кампакт-дысках. Паволі рыхтуемся да 30-гадовага юбілею, які выпадае ў наступным годзе, — сказаў музычны кіраўнік «Маланкі» Сяргей Лукашук.

Фестываль завяршыў фольк-гурт «Чарамшына» з Чаромхі, які захапіў публіку, сярод якой было многа маладых асоб.

— Мы сёння выступаем з навейшымі нашымі творамі і песнямі апрацаванымі раней. Падчас некаторых нашых канцэртаў выступае з намі Зміцер Вайцюшкевіч, але сёння яго не будзе, — сказала музычны кіраўнік «Чарамшыны» Барбара Кузуб-Самасюк.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



# Кангрэс праваслаўных вучоных

■ Рака Пільніца са ставамі каля Краснага

З чацвярга па суботу ў канцы мая — пачатку чэрвеня ў Супрасльскай акадэміі адбылася міжнародная навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Гістарычныя аспекты праваслаўя і сучаснае грамадства", ладжаная расійскім Аб'яднаннем праваслаўных вучоных, Супрасльскай акадэміяй і Беластоцка-Гданьскай епархіяй. Канферэнцыя адмыслова ладзілася сёлета, адзначаючы 400-годдзе падарожжа патрыярха Феафана III у Рэч Паспалітую і 180-годдзе Полацкага царкоўнага сабора, які далучыў уніятаў да праваслаўя.

31 мая адбылася пленарная сесія. Даклады зачыталі вучоныя з Польшчы і праваслаўнага замежжа. Нашых спраў датычылі выступленні прафесара Антона Мірановіча з Беластока і протаіерэя Аляксандра Раманчука з Мінска.

Антон Мірановіч зачытаў даклад на тэму дзейнасці іерусалімскага патрыярха Феафана III у Рэчы Паспалітай. Патрыярх Феафан у 1618 годзе адпраўляўся па сутнасці ў Маскву, інтранізаваць новага патрыярха Філарэта, а пры нагодзе завітаў у Рэч Паспалітую.

На падарожжа патрыярха ўплывалі розныя падзеі ў цэнтральнай і ўсходняй Еўропе, у тым ліку і ў Рэчы Паспалітай, калі пасля берасцейскай царкоўнай уніі амаль усе епіскапы адышлі ад праваслаўя і паўстала праблема іерархіі. Тады ў 1618 годзе канстанцінопальскі патрыярх Цімафей асобным лістом з 1 красавіка 1618 года звяртаецца да іерусалімскага патрыярха Феафана III і просіць яго, каб здзейсніў не проста падарожжа ў Маскву, але заняўся пытаннем аднаўлення іерархіі. А тады праваслаўнай іерархіі не было акурат у Рэчы Паспалітай. У ягонай місіі быў не толькі рэлігійны характар. Патрыярх удзельнічаў у польска-маскоўскіх перагаворах, якія адбываліся ў Туле. Ён дабіўся там вызвалення з польскага палону і вяртання ў Маскву кандыдата ў патрыярха Філарэта. Калі Філарэт вярнуўся ў Маскву, іерусалімскі патрыярх у палове 1619 года інтранізаваў вызваленага Філарэта ў маскоўскага патрыярха. У час прабывання патрыярха Феафана III у Маскве прыбыло туды казацкае пасольства на перагаворы з царскімі чыноўнікамі. У ходзе перагавораў казакі закранулі рэлігійныя пытанні, асабліва пра становішча праваслаўных у Рэчы Паспалітай; маскоўскі патрыярх падтрымаў іх пастулаты. Філарэт ведаў палітыку польскага касцёла, паколькі ён доўгі час знаходзіўся ў польскім палоне. Патрыярх Філарэт падтрымаў меркаванне казакаў каб аднавіць іерархію. Але як гэта зрабіць? Па зваротнай дарозе з Масквы ў Іерусалім патрыярх Феафан III прыбыў на тэрыторыю Рэчы Паспалітай. Але ў яго не было паўнамоцтваў для аднаўлення іерархіі; хутка давезлі іх з Канстанцінопаля. У той час канстанцінопальскім патрыярхам быў Кірыл Лукарыс, які добра ведаў сітуацыю ў Рэчы Паспалітай; ён некалькі разоў прабываў у РП і быў за аднаўленне іерархіі. Патрыярх Феафан III быў у РП пад строгім наглядам не толькі каралеўскіх улад, але асабліва гетмана Станіслава Жулкеўскага, які непрыязна адносіўся да праваслаўя. Калі патрыярх прыбыў на тэрыторыю РП, наведаў ён Кіеў, адкуль накіраваў пасланні розным брацтвам, якія перавёў у статус стаўрапігіяльных, незалежных ад мясцовых епіскапаў і падпарадкаваў іх юрысдыкцыі патрыярха. Ён намагаўся, каб брацтвы сталі галоўнай сілай у змаганні супраць уніі, супраць ганенняў на праваслаўных. Чарговым крокам быў цыркуляр з адозвай да праваслаўных жыхароў Літвы і Кароны выбраць са свайго складу епіскапаў. У канцы жніўня ў Пячэрскім манастыры ў Кіеве адбыўся з'езд праваслаўнага духавенства і міран, які разглядаў кандыдата на мітрапаліта кіеўскага. Спачатку патрыярх баяўся далучацца да гэтай ініцыятывы, таму што войска польскага караля стаяла непадалёку Кіева і ён апасаўся непрыемнасцей. У пачатку кастрычніка да патрыярха Феафана III, які ўжо збіраўся да выезду, дайшла інфармацыя, што адбылася бітва пад Цэцорай, у якой польскае войска атрымала паразу і згінуў гетман Жулкеўскі; гэта змяніла пазіцыю патрыярха Феафана III. Тады патрыярх вярнуўся ў Кіеў і рукапалажыў у епіскапы некалькіх манахаў. Ён поўнасцю аднавіў праваслаўную іерархію ў РП. Перад выездам патрыярх Феафан III прыняў два вельмі важныя палітычныя рашэнні. Ён забараніў казакам ваяваць з Маскоўскай дзяржавай. Далей, ён звяртаўся да праваслаўнага насельніцтва і паведамляў пра ўстанаўленне кіеўскай мітраполіі з сямі епархій. І абклаў уніятаў анафемай. І абвясціў, што епіскапы павінны выбіраць са свайго асяроддзя чарговага мітрапаліта. І звяртаецца да канстанцінопальскага патрыярха зацвердзіць гэты выбар. Такія рашэнні патрыярха мелі вялікае значэнне ў гісторыі нашай Царквы. Вельмі важным вынікам паездкі Феафана III у РП было аднаўленне праваслаўнай іерархіі, бо царква без іерархіі не існуе. Не было гэта дзеянне выпадковае, але падрабязна запланаванае. Рашучасць патрыярха бралася з трагічнай сітуацыі Праваслаўнай царквы ў РП, якая была пазбаўлена ўсіх правоў і епіскапату. Патрыярх хіратоніяй новых уладык захаваў непарыўнасць іерархіі. Важным было выдзяленне стаўрапігіяльных царкоўных брацтваў, якія былі галоўнай сілай, баронячай праваслаўе ў РП. Прабыванне патрыярха Феафана III узмацніла пазіцыю Праваслаўнай царквы і прывяло да таго, што актыўнасць міран у царкоўным жыцці значна павысілася. Патрыярх Феафан III прывёў да таго, што казакі масава сталі на баку Праваслаўнай царквы. Яны спачатку індыферэнтна ставіліся да рэлігійных пытанняў, а пасля візіту патрыярха Феафана III сталі галоўнымі абаронцамі праваслаўя ў РП. Прабыванне патрыярха Феафана III у РП дало пачатак шчыльнаму супрацоўніцтву казацтва з Праваслаўнай царквою. Прывяло таксама да ажыўлення манаскага жыцця. Пасля візіту патрыярха Феафана III наступіў выразны рост свядомасці праваслаўных вернікаў, у 1620-я гады ў Рэчы Паспалітай было створана некалькі новых манастыроў. Узмацніўся ўплыў на свецкіх, якія ўжо былі на шляху адыходу ад праваслаўя. Быў затармажаны наступ уніі і ўзмоцнена аслабелае ў выніку брэсцкай царкоўнай уніі праваслаўе. Пытанне юрыдычнага палажэння Праваслаўнай царквы стала элементам не толькі ўнутранай, але і вонкавай палітыкі дзяржавы. Пад ціскам гэтых усіх змен новы кароль Уладзіслаў IV згадзіўся легалізаваць Праваслаўную царкву на каранацыйным сойме ў 1633 годзе. Калі б не было рашэнняў патрыярха Феафана III з 1619-1620 гадоў, не было б і рашэння караля ў 1633 годзе.

Протаіерэй Аляксандр Раманчук расказаў пра прадпасылкі для Полацкага царкоўнага сабора ў 1839 годзе, які далучыў уніятаў з тэрыторыі Расійскай імперыі да Праваслаўнай царквы. Спачатку дакладчык панаракаў на расійскіх праваслаўных калег, што яны не прыдаюць належнай увагі гэтай падзеі, не хочуць удзельнічаць у супольных канферэнцыях і іншых мерапрыемствах па ўшанаванні Полацкага сабора 1839 года. А далей было пра тыя дзеянні расійскіх манархаў, якія прывялі ўніяцкіх іерархаў да далучэння да Праваслаўнай царквы. Ёсць меркаванне, што царыца Кацярына II і Мікалай I былі душыцелямі канфесійнай свабоды. Спачатку ўрад Кацярыны II узяў курс на дабравольны пераход з уніі ў праваслаўе. За той час з уніі ў праваслаўе перайшло звыш паўтара мільёна вернікаў, а ў лацінскі абрад менш чым паўмільёна. Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай Кацярына змяніла структуру ўніяцкай царквы ў сваёй дзяржаве, пакідаючы толькі адну епархію. У наступным годзе імператрыца памерла, не давёўшы да далучэння ўсіх уніятаў; іх на далучаных землях Рэчы Паспалітай было ўсё яшчэ больш чым праваслаўных. Заняўшы ейнае месца цар Павел I дазволіў пашырыць епархіяльную структуру ўніяцкай царквы і падпарадкаваў яе ўладзе лацінскіх епіскапаў. Меркаваў ён, што тыя ўніяты, якія не прынялі праваслаўнага абраду, страчаны для Царквы і адказнасць за іх канфесійныя справы павінен несці лацінскі касцёл. Ну і Касцёл разгарнуў наступленне па далучэнні да сябе ўніятаў. Мяркуецца, што ў пачатку XIX стагоддзя ў касцельныя структуры перайшло каля мільёна ўніятаў. Паколькі гэтая з'ява моцна аслабляла ўніяцкую царкву, тады яе іерархі сталі хадайнічаць ва ўладах за спыненне гэтай тэндэнцыі. І ў 1805 годзе выйшаў указ цара Аляксандра I, які забараняў празелітызм у карысць лацінскага касцёла. У міжчасе ўніяцкім духоўным была створана магчымасць атрымання вышэйшай багаслоўскай адукацыі ў Віленскім універсітэце і Полацкай духоўнай семінарыі. Ход падзей кіраваў сімпатыі ўніяцкага духавенства ў бок праваслаўя. У 1827 годзе выходзіць указ цара Мікалая I, які забараняе прымаць іншаверцаў ва ўніяцкія манастыры. Гэта рашуча абмяжоўвае празелітычныя поспехі лацінскага духавенства... Полацкі сабор адбыўся ў лютым 1839 года, а ў красавіку наступіла царкоўнае юрыдычнае далучэнне ўніятаў да праваслаўя...

Слоў пару пра даклад прафесар Варонежскага ўніверсітэта Ірыны Косінавай; быў ён пра ваду. Паказала яна слайды, на якіх быццам відаць структурызаваную ваду, больш і менш, лепшую і горшую. Сцвярджала яна, што вада станоўча структурызуецца ў выніку асвячэння і малітвы над ёю. Праверыў я гэтыя *откровения* ў Вікіпедыі; ніякага пацвярджэння набожнаму ўздзеянню на ваду там не даецца. У мяне тады з'явілася думка, што масцітыя вучоныя Маскоўскай дзяржавы часта вельмі пакорліва даказваюць розныя тэзісы сваіх улад. У цалкам нядаўні час яны такім чынам даказвалі праўдзівасць прапаганды бальшавіцкіх палітрукоў, а зараз гэтак жа сцелюцца перад царкоўнымі палітрукамі. Толькі вось ёсць закавычка — гэтую структурызаванасць вады пачалі весціць іншаверцы, а праваслаўныя заўзятары намагаюцца свяціць адбітым ад іх святлом. А калі глянуць на іншыя рэчывы, то ці яны таксама не структурызуюцца ад набожных абрадаў? Напрыклад, драўніна або золата. Калі маліцца перад ідалам, *истуканом*, ці ў яго рэчыве таксама не праяўляецца сакрум?..

1 чэрвеня мелі адбыцца панэльныя пасяджэнні, пачатак іх быў вызначаны на 16-ю гадзіну. У Супрасль падаўся я пяшком, па новай эстакадзе над вёскай Краснае над ракою Пільніцай. Па эстакадзе, якая пралягла па маляўнічым ландшафтным парку, які яшчэ тысячу гадоў таму мог быць месцам пакланення нашых продкаў структурызаванай вадзе Пільніцы ды такім жа гаям паабапал яе. Зайшоў пунктуальна і даведаўся, што навукоўцы яшчэ ў Адрынках, што яшчэ чакае іх абед, што чакаць іх трэба сама менш паўтары гадзіны. Ну, відаць, не вельмі ім рупіла прадстаўленне іхніх навуковых дасягненняў зацікаўленым. І я да тых дасягненняў паставіўся больш-менш так, як паставіліся да іх некаторыя іхнія аўтары...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# Зорка

для дзяцей і моладзі


# Газеты і адметныя публікацыі XXXIII Сустрэч «Зоркі»



У Масеве

„Бел-News” і «Шэпты з шафы» гэта загалоўкі газет, якія ўзніклі на XXXIII Сустрэчах «Зоркі». Яны сугучныя праграме і атмасферы нашых журналісцкіх майстар-класаў. У гэты раз нашы сябры знаёміліся з прэсавай інфармацыяй, або як кажуць — ньюсам. Паколькі крэатыў сучасных вучняў у галіне інфармацыі зводзіцца да эсэмэсак і звестак на фейсбуку, мы рашылі пісаць ньюсы сябрам, у якіх змяшчалі фактаграфічныя звесткі з Сустрэч і адначасова прымянялі правілы жанру. У гэтым стылі ўзнік таксама «Дзённік Сустрэч „Зоркі”», які апрача фактаў аднатаваў непаўторную атмасферу і асабістыя ўражанні Эвы Іванюк, аўтаркі дзённіка.

## Лісты з ньюсам



Добры дзень, сябар!

Я ўжо трэці раз на Сустрэчах «Зоркі». Яны пачаліся ў нядзелю, 9 чэрвеня. Па сёння мы мелі ўжо тры сустрэчы. У нядзелю прыехаў да нас Віктар Сямашка з Мінска. Ён расказаў пра музыку і вершы, а таксама чытаў нам свае новыя творы, якія яшчэ нідзе не друкаваліся. Я тут галоўны рэдактар адной газеты. У панядзелак мы рыхтавалі пытанні да інтэрв'ю з Наталляй Кандрацюк-Свярубскай. Яна журналістка інтэрнэтнай прэсы — GAZETA.PL. Яна займаецца падарожжамі. Для мяне гэта была цікавая сустрэча, таму што я сама люблю падарожнічаць. Я таксама хацела б ездзіць па свеце ў сваёй будучай працы. Таксама Міхась Сцепанюк, рэдактар Radio Białystok, сказаў, як важна ў падарожжах ведаць замежныя мовы. Ён — іберыст, знаўца Іспаніі і Мексікі. Мы разам зрабілі радыёперадачу з Сустрэч, слухалі яе ў пятніцу на Радыё Беласток у 18:30. Я забыла сказаць, што мы ў лясным пансіянаце Бора-Здруй каля Нараўкі. Думаю, што яшчэ перада мною многа сустрэч і сюрпрызаў. Раскажу ўсё пасля вяртання 14 чэрвеня. Да пабачэння!

*Эва ІВАНЮК,*
*галоўны рэдактар «Бел-News»*

Паўліна Ёдла, *Бел-News*

### Адкажы сам...

Паміж пушчай, паміж далінамі,
плыве рака шумлівая, а пры той рэчцы
маленькая хата.
А ў той хатцы жывуць дзед і бабуля,
з кошкай, курыцай і сабакам.

Паміж крамамі, паміж стаянкамі
аўтамабіляў,
плыве каналізацыя, а над гэтай
каналізацыяй стаяць дамы.
А ў тых дамах жыве сям'я,
мама, бацька, я і сястра.

Зямля адна, а месцы розныя,
Людзі адны, а ўсё ж так розныя.
Край родны адзін,
а мова родная – якая?
– Адкажы сам.

## УВАГА КОНКУРС! № 25-19

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 7 ліпеня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**У дзвюх матак па пяць хлапчатак, кожнаму сыну адно імя.**

(падказка: частка цела)

(П.....)

**Адказ на загадку № 21: сонца. Узнагароды, наклейкі, выйгралі Карнэлія Вшэбароўская з Нарвы, Дам'ян Манаховіч, Ася Філіманюк з бельскай «тройкі», Мартына Барэвіч з Бабік, Юстына Астапковіч з ПШ № 1 у Гайнаўцы, Кінга Бах, Агата Галубовіч з Шудзялава. Віншуем!**




Вогнішча і песні

# Экскурсія ў галерэю

На трэці дзень Сустрэч мы паехалі на экскурсію ў Нараўку. У час паездкі мы спявалі народныя беларускія песні. У канцы мы прыехалі ў мастацкую галерэю імя Тамары Саланевіч. Там паглядзелі выстаўку ікон Міхала Пякарскага з Ляўкова. Таксама мы пабачылі незвычайныя, з міжваенных часоў, фатаграфіі. Іх аўтар — Якуб Смольскі. Фатаграфаваў ён жыхароў вёскі Лука. Гэтая вёска была выселена пад Семяноўскае вадасховішча. Спадарыня Кася Бяляўская займальна расказала нам пра аўтараў і іх творы. Мы таксама зрабілі супольны здымак у этнаграфічнай зале. Можа і яна будзе калісьці гістарычнай?

У зваротнай дарозе мы гаварылі, смяяліся і спявалі песні. Пан Бора, які вёз нас на трактары, быў уражаны нашымі спевамі. Нам падабалася экскурсія.

*Габрыель Пах і Мікола Абрамюк, «Шэпты з шафы».*



Спадарыня Кася Бяляўская займальна расказала нам пра аўтараў і іх творы

Паралельна ўзнікалі класічныя ньюсы, сярод якіх вылучаецца артыкул Габрысі Вільдовіч «Крыты хакей у Гарадку», з малавядомымі словамі, характэрнымі для згаданага віду спорту.

Правілы жанру знойдзем у інфармацыі «Экскурсія ў галерэю» кемлівых пяцікласнікаў Габрыеля Паха са Шчытоў і Міколы Абрамюка з Беластока.

Паколькі праграма XXXIII Сустрэч «Зоркі» складзеная пад тэму «Медыя і глабальная вёска», у газетках шмат месца займаюць рэпартажы і фельетоны пра замежныя падарожжы. Згодна з традыцыяй мы правялі каларытныя гутаркі-інтэрв'ю і апытанні з гасцямі Сустрэч, а таксама назначылі сем турыстычных цудаў у Нараўчанскай гміне. Прысутныя таксама фельетоны і рэпартажы, смяшылкі і крыжаванкі. Змест газет прыгожа дапаўняюць вершы, апавяданні, аўтарская песня пра Сустрэчы ў Бора-Здруй, малюнкі, графікі і праекты вокладак. Асаблівай пахвалы заслугоўваюць партрэты гасцей, размаляваныя Юстынай Бакуменка з Беластока. Таксама зачароўвае «Хатка з Масева» Клаўдзіі Нікапчук са школы ў Нарве.

Іншыя артыкулы, якія атрымалі вылучэнні, гэта фельетоны «Свядомы выбар» Эвы Іванюк, «Частка майго жыцця» Вікторыі Гаць і рэпартаж «Залукі ў Гродне» аўтарства Патрыцыі Каранкевіч. Сярод літаратурных твораў найбольш уразіў верш Паўліны Ёдлы «Адкажы сам».

Як кожны год, мы назначаем самага лепшага журналіста Сустрэч. У гэты раз бесканкурэнтнай аказалася Эва Іванюк, вучаніца III класа гімназіі пры гайнаўскай «чацвёрцы». Эва праявіла сябе як аўтарка ньюсаў, фельетонаў, галоўная рэдактар газеты «Бел-News» і таленавітая спявачка. Менавіта Эва ў дуэце Вікторыяй Гаць (галоўнай рэдактар газеты «Шэпты з шафы» не толькі матывавалі сяброў да працы, але і прывілі непаўторную, музычную афарбоўку Сустрэчам.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji oraz Podlaskiego Urzędu Marszałkowskiego*

# Сустрачанскі апытальнік

**Віктар Сямашка – музыкант, паэт, журналіст.**



**1.Сустрэчы Зоркі, гэта для Вас:**
– Прыемная нечаканасць.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**
– «Клёк».

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**
– Лагойшчына.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**
– Не хлусіць.

**5. Найцяжэйшая праца для вас, гэта:**
– Праца для грошай.

**6. Што Вас натхняе:**
– Прырода.

*(Апытанне правялі журналісты газеты "Шэпты з шафы", малюнак – Юстына Бакуменка).*

# Беларуска-музычная крыжаванка № 25-2019

*Рэдакцыя «Бел-News»*



Запоўніце клеткі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

1. Мужчынскі голас.
2. Чалавек, які працуе сваім голасам.
3. Музычны алфавіт.
4. Дамінуючая гама ў творы.
5. Пераплывае праз Віцебск.
6. Гістарычны герб Беларусі, адзін з галоўных сімвалаў.
7. Аўтар верша «А хто там ідзе».
8. Гімн Беларусі.
9. Сінія кветкі, сімвал Беларусі.




**Адказ на крыжаванку № 21-2019:**

Леў, Біч, сварка, смелы, якр, смартфон, смага, вока, дарога, ух, падарожжа. Лес, свой, смог, смак, смага, вера, балт, два, рыфма, баян, гуж, чарапаха.

Узнагароды, **аўтаручкі**, выйгралі **Тамаш Ваўранюк** з Нарвы, **Патрыцыя Нявінская, Павел Пахвіцэвіч** з Орлі, **Клаўдзія Орда** з бельскай «тройкі», **Аляксандра Куптэль** з Арэшкава, **Магда Вайцешык, Эмілія Скепка** з Нараўкі, **Алекс Зыскоўскі** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Агата Галубовіч, Кінга Бах** з Шудзялава. Віншуем!

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ, ЖОРСТКАЯ ПРАЎДА ПРА ВАЙНУ. МАЯ ВАЙНА. УСПАМІНЫ ПЕХАЦІНЦА

Юрка БУЙНЮК

Летась мінула пятнаццаць гадоў як не стала ў нашай літаратуры вядомага беларускага пісьменніка Васіля Быкава. Затое сёлета 19 чэрвеня мінае 95 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага аўтара ваенных раманаў, якія перайшлі ў канон сусветнай літаратуры і былі перанесены на экран кіно. Так сталася са «Знакам бяды», «Альпійскай баладай». Аднак ніхто не спадзяваўся, што калісьці з'явіцца аўтабіяграфія Васіля Быкава. І яна з'явілася ў мінулым годзе. Так як Іван Мележ, Іван Навуменка ці Іван Шамякін, таксама і Васіль Быкаў быў удзельнікам Другой сусветнай вайны. Быў ён салдатам 2 і 3 Украінскіх франтоў, з імі перайшоў Украіну, Малдову, Італію, Венгрыю, Аўстрыю і Балгарыю. Гэта ўсё апісвае ў біяграфічнай кнізе «Мая вайна. Успаміны пехацінца».



### ДЗЯЦІНСТВА НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

Васіль Быкаў нарадзіўся 19 чэрвеня 1924 года. Яго родная вёска Бычкі на Віцебшчыне была маленькая — толькі дваццаць хат. Бацька пісьменніка Уладзімір Фёдаравіч быў вымушаны працаваць за мяжой і толькі на старасць вярнуўся ў родную вёску. Бацька Васіля Быкава працаваў у Нямеччыне, змагаўся на Першай сусветнай вайне. Сям'я жыла бедна. Дзед быў кіраўніком цаглянага завода ў Курляндыі. Бабуля памерла рана. Зямлі было мала і тое забраў калгас, які не ўмеў гаспадарыць. Часы дзяцінства будучага пісьменніка былі бедныя. Маці Анна Рыгораўна была родам з вёскі Завулак, якая пасля прайгранай саветамі польска-бальшавіцкай вайны апынулася на тэрыторыі Польшчы. І так дзядзька Лявон, брат маці, які ўсё жыццё быў рыбаком, застаўся ў Польшчы. Вёска Бычкі была два кіламетры ад польскай граніцы. Палову вучняў пачатковай школы ў мястэчку Кублічы, дзе вучыўся малы Васіль Быкаў, складалі яўрэі. Будучы пісьменнік сябраваў з братамі Свярдловымі — Меірам і Лейбай. Лейба загінуў у 1941 годзе расстраляны з іншымі яўрэямі ва Ушачах. Яго брат Меір жыў у Маскве. У Кублічах была школа, аптэка, сінагога, кузня, будынак пажарнікаў. Была таксама царква з XVI стагоддзя, з якой у 30-я гады XX стагоддзя атэісты знялі крыжы з купалаў і разграбілі. Дарэчы, у СССР, у тым ліку і ў Беларусі ў той час былі закрыты ўсе цэрквы і касцёлы. Камуністы арыштоўвалі святароў і саджалі ў турмы. 7 ліпеня моладзь святкавала Купалу, распальвала вялікае вогнішча, цераз якое скакалі. У 1932 годзе камуністы намаўлялі да калектывізацыі. Людзі прыслухоўваліся да слоў агітатараў, уступалі ў калгас з верай, што будзе лепш, а ўжо вясною 1933 года скончыліся запасы ежы і прыйшлося галадаць. Людзі не мелі ні збожжа, ні грошай, каб яго купіць. Была праблема прыдабыць новую вопратку ці боты для дзяцей, таму што бацькі не мелі грошай, а ў крамах нічога не было. Восенню 1939 года малады Васіль Быкаў пачаў вучобу ў мастацкім вучылішчы ў Віцебску. Студэнты былі вечна галоднымі, з бяды елі ў асноўным толькі хлеб з кіпенем. Быкаў жыў у студэнцкім інтэрнаце. Зіма 1940-1941 года была асабліва халодная. Пасля заканчэння трэцяга курса ў палове чэрвеня Васіль Быкаў паставіў паехаць на працу ў горад Шостак на Палессі на Украіне, дзе жыў дзядзька будучага пісьменніка. Там усіх застаў пачатак Другой сусветнай вайны.

Лета 1941 года было асабліва гарачае.

### ПАЧАТАК ВАЙНЫ НА УКРАІНЕ

Вайна сустрэла пісьменніка на Украіне. Там быў прызваны на фронт. У арміі панаваў голад, не хапала ежы, вопраткі, зброі, а адна вінтоўка была на дзесяцёх салдат. Украінцы не хацелі ваяваць і часта ўцякалі з арміі і вярталіся дамоў.

Быкаў меў тысячу кіламетраў да хаты і таму застаўся ў арміі. Пісьменнік быў у арміі з сябрам Аляксеем з Беларусі. У гэты час да Быкава даходзілі чуткі, што яго родная Беларусь была акупаваная немцамі, што на Беларусі дзейнічала шмат партызанскіх груп. Восенню 1941 года аўтар быў у Саратаўскім раёне. Там Васіля Быкава разлучылі з сябрам — яго пакінулі ў Саратаве, Аляксея адправілі ў Вольск. Калі аўтар праходзіў з арміяй украінскія вёскі, дык жанчыны не мелі іх чым накарміць і пераважна казалі: «Што ж я вам дзеці дам, калі ў мяне толькі адна фасоля і барабоця» (бульба — укр.). Часам падносілі кубак пахучай і мутнай самагонкі з буракоў. Не было мяса, а нават сыру і масла, таму украінскія гаспадыні кармілі салдат поснай бульбай або кашай. На пачатку верасня 1942 года начальства адправіла Быкава ў пяхотнае вучылішча. У той час немцы цэлымі начамі бамбілі Саратаў. Восенню 1942 года другі сябар Быкава, Коля Іваноў, які быў з Беларусі, папаў пад Сталінград і там загінуў. У пяхотным вучылішчы ў Саратаве курсанцкай ротай камандаваў старшы лейтэнант Грыб, родам з Гомельшчыны. Ён змясціў фота Васіля Быкава сярод найлепшых выпускнікоў пяхотнага вучылішча. Камандзірам батальёна быў грэк — маёр Анціпас. Гэта быў вельмі добры камандзір. Тады грэкаў не высылалі на перадавую, толькі на тылы. Восенню 1943 года Васілю Быкаву прысвоілі званне малодшага лейтэнанта. У гэты час Быкаў перажыў крывавую бітву на правым беразе Дняпра. Пасля ў Задняпроўі была такая ж бітва. Пад Крывым Рогам немцы адагналі танкі Савецкай арміі на 60 кіламетраў. Потым армія, у якой Быкаў быў камандзірам стралковага батальёна, дала атаку на Александрыю і Знаменку. У гэтых баях былі сотні забітых і сотні раненых. Большасць салдат мела ўжо досыць вайны і ім было абыякава — жыць ці быць забітым.

Забітых салдат не было часу хаваць — дзе ўпаў забіты, там і застаўся ляжаць. З забітых здымалі вопратку, боты і зброю — гэта прыдавалася іншым салдатам. Не спалі цэлымі начамі, а бяссонніца і стома выклікалі поўную абыякавасць. Таксама люты мароз на стэпе не даваў спаць. Зіма на Украіне 1943-1944 года, хаця не такая суровая як у Расіі, таксама запамяталася Быкаву як халодная, з ледзянымі вятрамі і калючай завірухай. Дзень і ноч аўтар праводзіў на двары на снезе. Перад зімовымі халадамі ратавала авечая безрукаўка-душагрэйка. Толькі шлем быў вельмі непрактычны, сам спаўзаў на лоб і сапраўды зусім не ратаваў галаву перад куляй. Салдаты ў пяхоце ваююць нядоўга. Добры сябра Васіля Быкава з пяхотнага вучылішча Коля Перажный загінуў у першым баі, атрымаўшы стрэл проста ў сэрца. Як піша аўтар, на вайне няма сантыментаў і салдаты вельмі хутка прывыкаюць да смерці сваіх самых блізкіх сяброў. У арміі заўсёды не ставала боепрыпасаў, зброі і ваеннай вопраткі. Зімой 1943 года пачалася Кіравагградская аперацыя. За яе маршал Конеў атрымаў ордэн Леніна, аб чым з гордасцю напісаў, палемізуючы з аўтарам рамана «Мёртвым не баліць». Паводле яго і Сталіна, аперацыя пад Кіравагградам прайшла паспяхова. Паводле Быкава было зусім інакш і гэта быў погляд салдата, ляжачага ў хутка выкапаным акопе ў заснежаным полі, залітага крывёю, у парытым танкамі полі. Там загінулі камандзір Быкава лейтэнант Міргарод, капітан Смірноў, камандзір палка маёр Казар'ян, дзясяткі салдат і афіцэраў. Таксама зімой 1943 года Васіль Быкаў быў упершыню ранены ў нагу і жывот. Трапіў у шпіталь, дзе знайшоўся спірт і закуска з трусяціны і ўсе раненыя разам выпівалі. Дарэчы, у вайсковым шпіталі месцаў для раненых заўсёды бракавала. Паводле Быкава, шпіталь аказаўся курортам, аднак у шпіталі было многа палітрукоў, якія сачылі за кожным салдатам і распальвалі нянавісць не толькі да фашыстаў, але і да сваіх. На пачатку вясны 1944 года ўжо здаровы аўтар ізноў вярнуўся на фронт. У адзін дзень Васіля Быкава назначылі камандзірам батарэі 45-міліметровых гармат, але наляцелі нямецкія «юнкерсы» і збамбілі батарэю — спачатку немцы выстралялі коней, а пасля пабілі салдат. З батарэі засталося толькі дванаццаць салдат, камандзір і аўтар кнігі. Быкаў з капітанам выпілі спірт за тое, што перажылі. Капітан кажа: «Ну, Быкаў, жадаю табе, каб ты дажыў да перамогі! Ты мо дажывеш, а я...», а тут як не дасць міна і камандзір загінуў. Вось такі ваенны лёс!

### МАЛДОВА

Калі ўкраінскі фронт увайшоў у Малдову пры мяжы з Румыніяй, жыхары вёскі ўцяклі. Яны закапалі ў зямлю бочкі віна, думаючы, што датрымаецца, калі вернуцца ў вёску. Але што схаваецца перад савецкім салдатам! Салдаты дасталі віно і сталі выпіваць, закусваючы курацінай. Курэй самі салдаты лавілі, білі і жарылі. Дарэчы, у Малдове ў параўнанні да Украіны было вельмі многа ежы: малако, хлеб, масла, сыр, сушаная садавіна. Савецкая ўлада яшчэ не ўспела аграбіць малдаўскую вёску, таму ў час вайны Малдова была намнога багацейшай краінай за Беларусь, Украіну ці Расію. Быкаў як камендант заняў хату вясковага псаломшчыка, які меў багатую бібліятэку, асабліва ў антычную літаратуру. Летам 1944 года ў Малдове, калі на дварах былі цёплыя ночы і гарачыя дні, 20-гадовы Васіль Быкаў закахаўся ў маладую медсястру Лужкову. На жаль, прыгожае першае каханне перарваў ім афіцэр СМЕРШа, які медсястру абвінавіцў у шпіянажы...

### А НА ВАЙНЕ ЯК НА ВАЙНЕ...

Салдаты так напапіваліся, што не ведалі, што ноччу апрача іх былі немцы, якія начальніка штаба ўзялі ў няволю ў той час, калі атрад Быкава гуляў. Медсёстрамі на вайне былі заўсёды дзяўчаты. Калі дзяўчына не згаджалася быць «ваеннай жонкай» (хаханкай) для афіцэра, дык ён таку непакорную дзяўчыну высылаў на перадавую. Многа прыгожых дзяўчат гінула на фронце. Васіль Быкаў пераважна ваяваў з аўтаматам ППШ. Доўга не выдавалі пісталета ТТ, але на канец аўтару кнігі выдалі, які замяніў яго на вальтэр. Гэта толькі ў кіно паказваюць як салдаты з гранатамі паўзуць пад танк і падрываюць яго. Насамрэч на вайне ніколі так не бывае. Калі танкі наязджаюць на пяхоту, дык салдаты не маюць ніякага шанцу перажыць. Тады мала каму ўдаецца ўцячы ад танкаў. Многа разоў на вайне бывае так, што ўзаемаадносіны і сувязь паміж атрадамі не заўсёды наладжаны як след, таму часта невядома, дзе знаходзіцца найбліжэйшы полк «сваіх». Падчас вайны, асабліва ў Нямеччыне, Аўстрыі савецкія салдаты гвалтавалі маладых дзяўчат. Раз сябра Быкава, Валька Бахтыгозін выратаваў маладую рускую дзяўчыну ад гвалту. Яна служыла ў старога прафесара ў Аўстрыі, які быў хворы, але вельмі добра адносіўся да дзяўчыны. Валька быў патомкам палякаў сасланых у Сібір. Быў адзіным сынам у маці, якая была бухгалтарам і часта яму пісала пісьмы. Быкаў вельмі паважаў і любіў Вальку.

### РУМЫНІЯ

Калі восенню 1944 года ў Румынію з баямі ўступіла Савецкая армія, працаўнік не выказваў сур'ёзнага супраціўлення. Аднак камандзіры прыказвалі, каб не есці яды і піць віна, таму што могуць быць атручаны. Аднак салдаты пілі і елі ўдоваль і ніхто не атруціўся. Румыны па загадзе караля Міхая дружна капітулявалі. Дарэчы, самога караля Румыніі Міхая Сталін узнагародзіў ордэнам Перамогі. У Румыніі Васіль Быкаў захварэў на малярыю. Зімою яна дала спакой, але вясною, калі быў у Аўстрыі, ізноў вярнулася тая хвароба. На вайне было шмат ні то смешных, ні то страшных здарэнняў. Напрыклад, у Венгрыі аднойчы ў час моцнай бамбардзіроўкі лейтэнант батальёна быў моцна ранены ў нагу і вечарам схаваўся ў падвал. Раніцаю адчуў, што ў падвале ён не сам. Аказалася, што ў падвале ёсць нямецкі капітан медыцыны. Схапіліся абодва за пісталеты і амаль не застрэліліся, але немец першы ўцёк.

### ВЕНГРЫЯ

Хаця венгерская армія ваявала процій СССР, дык мірны народ сустракаў Савецкую армію добразычліва і гасцінна. У кожнай хаце частавалі смажаным мясам, каўбасою, белым хлебам, варэннем. Аднак найбольш армія лезла ў паграбы венгерскіх сялян па банкі з кансерваванай садавінай і гароднінай, таму што савецкі салдат заўсёды быў галодны. Камандзірам атрада Быкава быў башкір, старшы сяржант Закіраў, вялікі спецыяліст па конях. У Венгрыі, таксама як у Румыніі, сур'ёзных баёў не было. Перад зімой 1944 года савецкі фронт фарсіраваў Дунай, але не адразу. Трое сутак ішлі баі з немцамі за Дунай. Тады Венгрыя была саюзніцай Нямеччыны.

### АЎСТРЫЯ

На аўстрыйскай граніцы, перад Альпамі немцы стараліся стрымаць армію, у якой быў Васіль Быкаў. Нямецкія танкі абстрэльвалі адзіную дарогу ў Аўстрыю. Аўстрыю Савецкая армія заняла на пачатку вясны 1945 года. У адным з аўстрыйскіх гарадоў Быкаў сустрэў дзяўчыну, якая была прататыпам Джулії ў рамане «Альпійская балада», якая сярод савецкіх салдат шукала нейкага Івана.

### ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Быкаў гэты дзень сустрэў у Аўстрыі. На двары цвіў бэз, а ўсе салдаты, няважна якой нацыянальнасці, пілі віно, якога было пад дастаткам. Пры рацэ Энс армія, у якой служыў Васіль Быкаў, сустрэлася з амерыканцамі. У некаторых з іх былі славянскія карані, пераважна польскія. Сярод савецкіх салдат былі ўраджэнцы Заходняй Беларусі, якія выконвалі ролю перакладчыкаў з польскай на рускую мову і, вядома, тады ўсе зразумелі сябе. Амерыканцы савецкім салдатам давалі на памяць запальнічкі, гадзіннікі і розныя дробныя падарункі. А што ж савецкія салдаты з СССР маглі ім даць узамен? Толькі зорачку, вырваную з салдацкай шапкі... Раз салдаты пабачылі ноччу святло. Аказалася, што свеціцца ў ваенным прадуктовым складзе. Адразу салдаты пачалі браць мясныя кансервы, алкаголь, муку, шакалад. З'явіўся стары аўстрыец і папрасіў міску мукі дые салдаты сказалі: «Навошта табе міска? Бяры мяшок». Стары ледзь пацягнуў дахаты мяшок і знік у цемры ночы. Пасля Дня перамогі салдаты кралі што папала, а афіцэры ў іх адбіралі.

### БАЛГАРЫЯ

Па загадзе камандавання савецкая армія падалася ў брацкую Балгарыю, дзе Быкаву прыйшлося пражыць год. Пасля

чытайце ☞ 10

# Дэбют

*Мікалай ВАРАНЕЦКІ*
Альхоўка, Нараўчанская гміна

### Думай — не думай

Думай — не думай,
Свой век перажывеш,
Ад лёсу свайго нікуды не ўцячэш.

Сумуй — не сумуй,
Жывеш адзін раз.
Жыць хочацца доўга і не паміраць.

Хадзі, весяліся,
З сябрамі гуляй
І песні спявай ды віно выпівай.

Ці ж вытрымаць можа
Усіх нас зямля?
Усіх накарміць нас не ў сілах яна.

Зямля нас атуліць,
Сатрэ ў парахно,
Багатых і бедных, зямлі ўсё адно.

Бяда і багацце
Ляжаць у зямлі.
Зямла праглынула грэшных і святых.

Думай — не думай......

### Зайграй, скрыпка

Зайграй, скрыпка, зайграй,
Весялі наш край!
Не змаўкай, звіні,
Радасць прынясі.

Зайграй, скрыпка, зайграй,
Струны закранай,
Сэрца дабрыню
Людзям адкрывай.

Іграй, скрыпачка, грай,
Песням волю дай,
Песні хай ляцяць,
Цешаць мілы край.

Ігай, скрыпачка, грай,
Не пераставай.
Музыка твая
Як бальзам жыцця.

Музыка твая
На душу лягла.
Без музыкі той
Няма мне жыцця.

### Як добра

Як добра, што жыве са мною памяць,
І што былыя вобразы са мной.
Што адляцела птушкай назаўсёды,
Сядзіць заўсёды ў памяці маёй.

Як добра, што ў грудзях працуе сэрца,
А ў жылах безупынна кружыць кроў,
А ў Белавежскай пушчы гучыць песня,
Разносіцца мядовы пах лясоў.

Як добра, што вакол шчырыя людзі,
Жывуць, працуюць, верaць у жыццё,
А ў дні святочныя разам святкуюць,
Кілішкі падымаюць за сталом.

П'ём за здароўе нашых самых блізкіх,
Сябрам жадаем цэлых сто гадоў,
Як добра, што ў грудзях працуе сэрца,
Што песні загучалі зноў і зноў.

Як добра, што лунаюць нашы песні,
І хочацца пражыць нам сто гадоў.
Мы верым ў нашы мары і натхненні,
Спяваем, пакуль у жылах кружыць кроў.

*Канстанцін ЦЕЛУШЭЦКІ*

### Нараўчанкі

Вясёлыя Нараўчанкі
Спявалі сорак лет,
А галасы іх звонкія
Ляцяць на цэлы свет.

Песень многа знаюць
І хораша спяваюць,
Хлопцы на гармоніях
Ім дапамагаюць.

Услухаўшыся ў песні,
Маладыя гады ўспамінаеш
І найлепшыя песні
З сэрцам радасным перажываеш.

Добра што ёсць людзі,
Што любяць спяваць,
А ў хлопцаў залатыя рукі,
Што ўмеюць усё зайграць.

Няхай народныя песні
Нам вечна жывуць,
А вясёлыя Нараўчанкі
Няхай ім пяюць, пяюць!

### Дажынкі

Дажынкі ў Нараўцы вясёлы.
З'ехаліся да нас «зэсполы».
Людзі закончылі работы ў полі,
Нарэшце можна адпачыць,
Паслухаць песень, пагаварыць,
Паўспамінаць калісні жніва,
Як людзі цяжка ў полі рабілі
Ад усходу сонца да заходу.
Сярпы і косы ў руках звінелі,
Жыта ў снопікі вязалі,
А снопікі ў дзявяткі стаўлялі.
На палях людзей было многа.
Пара жніў — але і пагода.
Не штогод ураджай бывае,
То засушша, то палі пазалівае.
Гаспадару ўсё вецер у вочы.
На нашай зямлі высока не падскочыш.
Вёскі пастарэлі.
Маладыя за граніцу павыязджалі.
Людзей няма на полі.
Толькі бегаюць бізоны.

### Асенні вецер

У вырай паляцела лета,
Асенняй пазалотай пакрылася зямля.
Асенні вецер сумна напявае,
Што з гэтым годам развітацца нам пара.

Пара нам развітацца з жураўлямі,
З сонечнай, летняй цеплынёй
І прывыкаць да халадоў зімовых,
Да доўгіх і марозных вечароў.

Восень — пара расстанняў, мар і спадзяванняў,
Пара віном чырвоным душу грэць,
Пара апошніх, цяжкіх развітанняў
З тымі, каго, на жаль, забрала смерць.

Асенні вецер напявае песню,
Аб тым, што наступае Новы год,
Што Дзед Мароз рыхтуе людзям ёлку,
Што святам уваскрэсне мой народ.

Зіма закружыцца у белым, снежным танцы
І пра мяцеліцу спяваць будзе мароз,
Калядным святам у п'яным карагодзе
Ля ёлкі прывітаем Новы год.

### Бібліятэка

У бібліятэцы кніжкі ждуць.
Людзі часта па іх бягуць.
Кожны бярэ кніжак пяць,
Каб было што пачытаць.
Бібліятэцы семдзесят лет,
А яна нестарая.
Новых кніжак прыбывае.
Бібліятэка штогод ажывае.
Аня Стульгіс усё вядзе,
Аб кніжках многа знае,
Кожнаму выбраць паможа
І дарадзіць як толькі можа.
Яна кніжкі любіць,
Аб іх моцна дбае.
Ну і сама многа чытае.

### Семяноўскі заліў

Заліў Семяноўка
Многа вады мае,
Рыбакоў то ж многа
Да нас прыязджае.
Лодкі выплываюць,
Рыбакі вудкамі
Рыбку лапаюць.
А рыбаў ёсць без ліку,
Таму што вада
У нас вельмі вяліка.
А на берагах заліва
Людзі дамкі будуюць,
А ў летнюю пару
Усе ў іх качуюць.
Тут паветра свежае
Тут чыстая вада.
Тут смачная ежа,
І жыць не бяда.

## Беларускі фэст у Ахрымах

На Сёмуху, 16 чэрвеня гэтага года ў пушчанскай вёсцы Ахрымы Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета адбыўся беларускі фэст пад лозунгам „І там жывуць людзі”. Ладзілі яго Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы, войт Нараўчанскай гміны і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. Паклапаціўся пра арганізацыю гэтага мерапрыемства радны і солтыс Павел Несцярук. Запрасіў радных. Было беластоцкае тэлебачанне, прыехалі журналісты, між іншым, беларускага штотыднёвіка „Ніва”.

Культурна-забаўляльнае мерапрыемства адкрыў войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі. Сардэчна прывітаў ён усіх удзельнікаў фэсту і зычыў ім самых лепшых музычных уражанняў ад канцэрта і пасля яго добрай танцавальнай забавы. Канцэрт вяла Марыёля Герман-Петручук з Гайнаўкі. Першым на сцэне выступіў у прыгожых касцюмах вакальна-музычны калектыў „Нараўчанкі” з Нараўкі. Ён прыгожа спяваў беларускія і польскія песні. Вядзе яго Пётр Скепка.

„Нараўчанкі”

У перапынку былі конкурсы. Свае вершы чыталі Тадэвуш Кунцэвіч з Лешукоў і Шыман Харкевіч з Новага Ляўкова. Затым выступіў з рытмічнымі да танцаў рускімі і беларускімі песнямі гурт „Метро” з Гайнаўкі.

Затым зноў і зноў плылі звонкія польскія, беларускія, рускія і ўкраінскія песні. Былі і „Вёсачка”, і „Смэрэко”, і „Галя”. Усе калектывы, у тым ліку яшчэ гурты „Немаральная прапанова” і „Аксель” выступілі паспяхова. Прыемна і весела было паслухаць іх у вольны час. Пад вечар тэмпература паветра была, як кажуць, у сам раз. Для прыгожых песень і выступоўцаў варта было быць на фэсце. Панавала прыемная атмасфера. Сабралася шмат людзей. Прыехалі нават з далёкіх вёсак.

Пасля 20-й гадзіны вечара ішлі танцы пад спеў і гучную музыку калектыву „Аксель”. Гуляла моладзь і старэйшыя. Мелодыі плылі далёка па лесе. Яны даходзілі ў Падляўкова і Новае Ляўкова.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Зёлкі, зёлкі

Дзевяць гадоў існуе пункт скупкі зёлак гайнаўскай суполкі з абмежаванай адказнасцю „Руно” ў Прэнтах Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Вядзе яго Вера Лукашук з Прэнтаў. Зараз зёлкавы сезон у самым разгары. Летнія зёлкі збіраюць і прыносяць жыхары Альхоўкі, Пасек, Прэнтаў, Леснай, Новага Масева, Старога Масева, Міклашэва і Семяноўкі. Сёлета „Руно” купляе менш лекавых зёлак у параўнанні да мінулага года.

Сёлетнія цэны за кілаграм сушанага зелля крапівы — 2,50 зл., ясноты (глухой крапівы) — 7 зл., сніткі — 6 зл., амялы — 2 зл., малачаю-адуванчыка — 3,50 зл., палявога братка — 5 зл., драсёну — 2,50 зл., марэны — 25 зл., маруны мяккай — 5 зл., гусялапкі — 16 зл., стрэлкі — 5 зл., палявога хвошчу — 6 зл. і сярэбраніка — 12 зл.

Цяпер за кілаграм сушанага лісця блюшчу плацяць 9 злотых, брушніцы — 14 зл., крапівы — 8,40 зл., бярозы — 4 зл., сніткі — 7 зл., мядункі — 12 зл., падбелу — 12 зл., адуванчыка — 7 зл. і жывакосту — 6 зл.

За карэнне крапівы можна зарабіць 7 зл., пяцёрніка — 18 зл., лопуху — 12 зл., адуванчыка — 15,25 зл., аеру — 12 зл., кабыляка (конскага шчаўуху) — 8 зл. ды жывакосту — 12 зл.

За цвет чырвонай канюшыны атрымаем 20 зл., адуванчыка — 10 зл., падбелу — 30 зл., каштана — 20 зл., шыпшыны з лісцем — 12 зл. і за драбнюсенькі цвет глухой крапівы — 220 зл.

За кілаграм сушанай кары крушыны плацяць 6 зл., вярбы г.зв. белай — 4 зл., чырвонай вярбы — 8 зл., каштана — 4,50 зл., дуба — 3 зл., ліпы — 6 зл. і каліны — 15 зл.

Дык збірайма цвет, лісце, зелле, кару і карэнне вышэйзгаданых раслін. Пункты скупкі „Руно” у Баб'яй Гары, Прэнтах і Скупаве ў Нараўчанскай гміне чакаюць. **(яц)**

8 ☞ працяг

# ВАСІЛЬ БЫКАЎ...

вайны балгары вельмі добра адносіліся да салдат з краін СССР. У Балгарыі народ прагнаў цара-крывапіўцу, а яго палац збурылі рускія бульдозеры. Дваццаць гадоў пазней у Балгарыі быў папулярны антысавецкі анекдот: «Да дзядулі Тодара прыбягаюць дзеці і радасна крычаць: «Дзядуля Тодар, дзядуля Тодар, рускія паляцелі на Месяц!». А дзед пытае тых дзяцей: «Усе? Слава табе, Госпадзі». З савецка-балгарскай дружбы нічога не засталося апрача абдымкаў Брэжнева з Жыўковым... Аўтару добра жылося ў Балгарыі, было што есці і піць, аднак хацелася да роднай Беларусі. Яго сябры-салдаты атрымлівалі пісьмы ад бацькоў з Беларусі і Украіны, даведваліся, што ў іх там голад і разруха. Восенню 1945 года многіх калег 1924 года нараджэння дэмабілізавалі, але Быкава не хацелі адпусціць, таму што ён афіцэр. Аўтара кнігі намаўлялі на фронце ўступіць у камуністычную партыю, аднак Быкаў не ўступіў, паколькі досыць меў камсамола. Восенню 1945 года салдат выпускаць сталі ў горад Сафію, дзе стаяла армія Васіля Быкава. Аднойчы Быкаў з сябрамі пайшоў выпіваць і не стала грошай. Сябра параіў узяць грошы з сейфа. Быкаў так і зрабіў. Пару дзён пазней начальнік палітаддзела пытае, дзе грошы з сейфа прапалі. Тады Быкаў здагадаўся, што нехта данёс. І так закончылася кар'ера Васіля Быкава ў палітаддзеле. Аўтара кнігі вярнулі ў батальён. Хто на Быкава данёс дык ён ніколі не даведаўся. У савецкай арміі нават пасля вайны не хапала вопраткі. За год Быкаву зносілася гімнасцёрка і новую дастаў з двума дзіркамі на левай лапатцы і на грудзях — відаць, яе з забітага афіцэра знялі. Настала зіма, снег і маразы. Быкаў купіў цёплае паліто ў балгарскага афіцэра. Доўга яго не панасіў, таму што камандзір брыгады выклікаў Быкава да сябе і забараніў насіць паліто па балгарскім генерале, кажучы, што гэта форма ворага. Замест таго Быкаву далі закароткае англійскае паліто. Васіль Быкаў у Балгарыі быў ужо старшым лейтэнантам і сябраваў з многімі малодшымі афіцэрамі. Адным з іх быў Валодзя з Уладзівастока, які на сваю бяду закахаўся ў балгарскую студэнтку. Звалі яе Вера, а яе бацька быў важным чальцом балгарскай камуністычнай партыі. Валодзя хацеў з ёю жаніцца, але начальства арміі не дазволіла. Хаця савецкая ўлада балгараў лічыла брацкім народам дык адначасова ставілася да іх як да ворагаў народа. Валодзя хацеў пагаварыць з бацькам Веры, аднак гэта яму не памагло. СМЕРШ арыштаваў Валодзю, якога абвінавацілі ў шпіянажы процііў СССР. Расстралялі Валодзю як ворага народа...

### ДЭМАБІЛІЗАЦЫЯ

Вясною 1947 года ў рэшце рэшт Васіля Быкава дэмабілізавалі. Аўтар кнігі не хацеў вяртацца да бацькоў і працаваць у калгасе, таму ён прыехаў у Мінск. Тады сталіца Беларусі была ў руінах. Быкаў знайшоў Саюз мастацтва, дзе кіраўніком быў Іван Асіпавіч Ахрэмчык. Ён Быкаву параіў пераехаць у Гродна. Аднак не меў ніякіх дакументаў з заканчэння мастацкага вучылішча. У Гродне Васіль Быкаў сустрэў старэйшага чалавека, бухгалтара газеты «Гродненская праўда», які параіў яму ўладкавацца на працу ў рэдакцыю гэтай газеты. Быкаў меў вялікую надзею, што ўрэшце пачне працаваць...

### ІЗНОЎ У АРМІІ

Летам 1948 года Васіля Быкава зноў прызвалі ў армію. Зіму 1948-1949 года Быкаў адслужыў у Слонімскай дывізіі. Пасля будучага пісьменніка выслалі аж на Курыльскія астравы. Там 22 чэрвеня 1950 года пачалася карэйская вайна. Савецкія афіцэры на гэтай вайне былі розныя — адны ветэраны Другой сусветнай вайны, другія — маладыя выпускнікі ваенных вучылішч. Пасля Быкава выслалі ў афіцэрскае вучылішча на Сахаліне. Там трэба было добра вучыцца матэматыцы, з якой Быкаў у сярэдняй школе меў слабыя ацэнкі. Зімою 1953 года, якраз у дзень савецкай арміі, нарадзіўся сын Сярожка. Быкаў быў на Сахаліне з жонкай, якая там працавала настаўніцай у школе. Калі Сярожка быў малы, перад сцюжамі і суровымі маразамі на Сахаліне ратаваў яго вялізны кот, які сваім пушыстым целам абаграваў малечу. Аўтар гэтай кнігі, хаця даслужыўся чыну маёра, меў досыць арміі. Адзін разумны афіцэр на Сахаліне сказаў, што савецкая армія падобная на зорку-пульсара, якая не зніжаецца і не расшыраецца.

### ВЯРТАННЕ Ў БЕЛАРУСЬ. ГРОДНА. БЫКАЎ ПІСЬМЕННІКАМ

З Сахаліна ў Беларусь да станцыі Асіповічы Быкаў з жонкай і сынам ехалі поездам цэлы тыдзень. Гэта было восенню 1954 года. Аўтара гэтай кнігі размясцілі ў ваеннай часці ў Лапічах. Тады восенню 1954 года Мікіта Хрушчоў загадаў паменшыць савецкую армію. З Лапічаў Васіля Быкава дэмабілізавалі. Там сям'я Васіля Быкава пасялілася ў кватэры жончынай сястры. Пазней атрымалі яны старую знішчаную кватэру, у якой было вельмі холадна. Урэшце Быкаў стаў пісаць першыя літаратурныя творы і неўзабаве быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Вялікая група беларускіх пісьменнікаў пабывала ў Маскве, дзе Быкаў пазнаёміўся і пасябраваў з вядомым рускім пісьменнікам Аляксандрам Салжаніцыным. У савецкую літаратуру былі ўведзены цесна звязаны з ідэалогіяй і прапагандай жорсткі канон сацрэалізму пры апісанні подзвігу Сталіна, абыходзячы складанасці дадзенай з'явы. Урэшце Васіль Быкаў мог пачаць пісаць свае вядомыя на цэлы свет раманы пра вайну, якую сам перажыў як салдат ці як афіцэр савецкай арміі на Курылах і Сахаліне. Нялёгкі быў шлях Васіля Быкава да творчай дарогі, якую блакавала начальства савецкай арміі.

Паводле кнігі:

Василий Владимирович Быков, «Жестокая правда войны. Воспоминания пехотинца», Издание Алгоритм, Москва 2018. Кніга на рускай мове.

❖Юрка БУЙНЮК




# http://vishivanka.by

Мода на вышыванкі, якая ўзнікла пасля падзей 2014 года на Украіне, працягваецца і дагэтуль. Вышытыя кашулі ў Беларусі апранälі нават лукашэнкаўскія чыноўнікі — людзі, якіх у сімпатыях да беларускасці заўважыць вельмі цяжка. Праўда, цяпер мода на вышыванкі праяўляецца не так выразна, як раней. З гэтага можна рабіць выснову, што яна пакрысе пачынае сыходзіць.

Аднак пакуль вышытыя кашулі лічацца нечым прывабным і сучасным, прадпрымальныя людзі знойдуць, як зрабіць на іх бізнес. Адным з прыкладаў такой вышываначнай справы з'яўляецца сайт „Вышыванка беларуская", які месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://vishivanka.by**. Дадзены сайт гэта інтэрнэт-крама, дзе кожны жадаючы можа прыдбаць для сябе вышытыя кашулі, сукенкі, торбы, бейсболкі, ручнікі. Пры гэтым пад назвай сайта мы ўбачым даволі цікавы заклік, зроблены, дарэчы, па-руску: „Будь настоящим беларусом!". Відаць, паводле ўладальніка сайта, якім выступае нейкі прадпрымальнік Старжынскі, сапраўдныя беларусы — гэта тыя, хто носіць вышыванкі. А такое сцвярджэнне, калі ўспомніць лукашэнкаўскіх чыноўнікаў у вышыванках, больш чым спрэчнае.

Сайт „сапраўднага беларуса" нібыта мае дзве моўныя версіі — рускую і беларускую. Аднак калі захочацца пазнаёміцца з яго зместам па-беларуску, то нічога не атрымаецца. Клікнуўшы на спасылку „Бел", апынаешся на старонцы з добравядомым для карыстальнікаў інтэрнэту паведамленнем: „404. Гэта памылка". Гэта больш чым дзіўна для такога быццам бы патрыятычнага сайта.

Уласна сайт падзяляецца на дзве вертыкальныя часткі. У першай, якая знаходзіцца злева, можна прачытаць, што прадаецца ў інтэрнэт-краме, а ў другой — справа, паглядзець на адзенне, у якое апранутыя мадэлі. Размешчаныя ўверсе выйсці да рубрык вядуць да каталога тавараў, табліцы памераў, спосабаў пакупкі, прапаноў рэкламнай вышыўкі, кантактаў. Але найбольш цікавай падаецца рубрыка „Навіны", дзе, праўда, месцяцца ўсяго толькі дзве нататкі.

У першай, невялікай, распавядаецца пра вышыванкі. „Белорусская культура — одна из самых богатых в мире. И это признанный факт! Поэтому дарить и носить вышиванки — это не только патриотично, не только дань моде. Белорусские вышиванки — традиции, культура, талант и красота нашего народа", — гаворыцца там. Пры гэтым варта адзначыць, што аўтары дадзенай нататкі не зусім знаёмы з уласна словам „вышыванка", бо раней ім абазначалася выключна ўкраінская вышытая кашуля, а не беларуская, слова да якой „прыліпла" каля пяці гадоў таму.

Другі тэкст распавядае нам пра тое, як чытаць беларускі арнамент, і з'яўляецца вытрымкай з кнігі „Беларускі арнамент. Ткацтва. Вышыўка" аўтарства Міхася Кацара. „Многія майстрыхі ўпэўнены, што тканыя вырабы і ўзоры на іх вылечваюць людзей. Магчыма, і так, бо і песні, і ўзоры нараджаюцца ад зеляніны лугу, квецені саду, ляснога шуму, абуджаюць надзею, любоў і шчасце", — распавядаецца там і адзначаецца, што большасць узораў народнай тэкстыльнай арнаментыкі беларусаў характэрна ўцэлым для славян, і калі б праца па вывучэнні арнаменту была наладжана ва ўсіх славянскіх народаў, то можна было б зрабіць неабходныя параўнанні, выразней выявіць агульнасць славянскай гісторыі і культуры, іх месца ў еўрапейскім кантэксце.

❖Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара



# 155 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Сержпутоўскага

Беларускі этнограф, фалькларыст, мовазнавец, літаратар Аляксандр Сержпутоўскі нарадзіўся 21 чэрвеня 1864 г. у вёсцы Бялевічы Слуцкага павета (сёння Слуцкі раён, Мінскай вобласці). Паходзіў з сям'і ляснога вартаўніка Казіміра Сержпутоўскага.

Аляксандр Сержпутоўскі ў 1880 г. скончыў Вызненскае народнае вучылішча, у 1884 г. — Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, у 1904 г. — Пецярбургскі археалагічны інстытут. У 1893-1896 гг. працаваў у мінскім аддзяленні Сялянскага пазямельнага банка і Мінскім паштова-тэлеграфным ведамстве. У 1906-1930 гг. быў супрацоўнікам этнаграфічнага аддзела Рускага музея. Гэта сама шырокі і буйны музей рускага мастацтва ў свеце. Знаходзіцца ў цяперашнім Санкт-Пецярбургу ў будынку Міхайлаўскага палаца.

З Беларуссю праца і дзейнасць Сержпутоўскага таксама звязана наўпрост. Ён настаўнічаў у Слуцкім і Мазырскім паветах (у 1884-1893 гг.). Праводзіў этнаграфічныя экспедыцыі ў Слуцкім і Мазырскім паветах, даследаваў палескую частку Беларусі па левых прытоках Прыпяці (экспедыцыя здзейснена ў 1906 г.). Сержпутоўскі — наватар беларускай этнаграфічнай навукі і фалькларыстыкі; адзін з першых сярод фалькларыстаў звярнуў увагу на казачнікаў. Сваёй працай паказаў наяўнасць глыбокага філасофскага мыслення ў беларускай народнай прозе. Удзельнічаў таксама ў этнаграфічнай экспедыцыі ў Пермскую губерню (у верасні 1920 г.). У 1923-1927 гг. рабіў шматлікія этнаграфічныя паездкі па рэгіёнах сучаснай Беларусі, па Смаленскай і Пскоўскай абласцях.

Сержпутоўскі быў праўдзейным сябрам Інстытута беларускай культуры. Удзельнічаў у Беларускай акадэмічнай канферэнцыі 1926 года. Быў папулярызатарам беларускай культуры, складальнікам вопісаў беларускай калекцыі, скіраванай на міжнародную выстаўку ў Ліверпулі (1939 г.).

Аляксандр Сержпутоўскі — аўтар 45 друкаваных навуковых прац, удзельнік 25 этнаграфічных, антрапалагічных, лінгвістычных экспедыцый. Узнагароджаны Малым залатым медалём Аддзела этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства (за „Зборнік беларускіх прыказак і прымавак"). Першая публікацыя навукоўца — нарыс „Голас з глушы", які быў надрукаваны ў „Мінскіх губернскіх ведамасцях" (1891 г.). Добра вядомы таксама яго наступныя працы: этнаграфічны нарыс „Беларусы-палешукі" (каля 1906 г.), зборнік „Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" (1911 г.), рукапісны „Зборнік беларускіх прыказак і прымавак" (змяшчае звыш 6 тысяч тэкстаў), „Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў" (1930 г.), „Кароткі слоўнік беларускай дзіцячай мовы" (высока ацэнены мовазнаўцам акадэмікам Яўхімам Карскім), збор песень з Горацкага, Чавускага, Мсціслаўскага, Клімавіцкага раёнаў (супольная праца з кампазітарам Якавам Прохаравым, 1924 г., лёс рукапісу невядомы). Пераклаў на беларускую мову некалькі вершаў украінскага паэта Тараса Шаўчэнкі.

Шмат прац навукоўца, на жаль, не зберагліся, у тым ліку і яго галоўная праца „Быт беларусаў". Яны, разам з архівам Беларускай Акадэміі навук, былі вывезены ў Германію, і там зніклі бясследна.

Памёр Аляксандр Сержпутоўскі ў Ленінградзе 5 сакавіка 1940 года. На хутары паблізу вёсак Пярэвалакі і Чудзін Ганцавіцкага раёна (Брэсцкая вобласць), дзе ў 1864-1885 гг. жыў этнограф, у 2003 г. у яго гонар усталяваны памятны знак.

❖Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ









Старыя здымкі

## Курсант Юльян Жыка

У сваім хатнім архіве нядаўна адшукаў я гэты стары здымак. Яго мне некалі падараваў слонімскі калекцыянер Міхаіл Рылко (1934-2012).

Здымак цікавы тым, што ён быў зроблены ў Беластоку 19 ліпеня 1915 года ў фотамайстэрні Б. Лазніцкага. На здымку сфатаграфаваны курсант ваеннага вучылішча. З адваротнага боку здымка ёсць даравальны надпіс: „Дарагому сябру Восіпу Лінгу ад Юльяна Жыка. 19.07.1915".

Хто такія Восіп Лінг і Юльян Жыка — невядома. Але раптам, пасля публікацыі, знойдуцца ўнукі ці праўнукі Жыкаў і Лінгаў і адгукнуцца. Таму і друкуем гэты стары беластоцкі фотаздымак, якому 104 гады.

Сяргей ЧЫГРЫН

Галоўнае праўленне
Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку,
Павятовае стараства ў Саколцы
і Бургамістр Саколкі

**запрашаюць на**
**Беларускі народны фэстын і Вянкі**

**21.06.2019 г. у 18.00 г.**
Саколка – пляц перад кіно „Сокал"

**У праграме:**
* Канцэрт калектываў:
„AD REM" з Дубровы-Беластоцкай,
„АМОРФАС" з Сямятыч, „EXIT" з Крынак, „РАЗАМ" з Камёнкі,
„СПЯВАЙ ДУША" з Міхалова,
„ЛАЙЛАНД" з Беластока,
„САКОЛЬСКІЯ ВЕРАСЫ" „АМЕЛА",
капэла „У МУНДКА" з Саколкі

* Іншыя атракцыёны для дзяцей і дарослых

Ганаровы патранат:
Стараста сакольскага павета
Пётр Рэцька

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. партнёр каровы = 6 _ 5 _ 1 _;
2. моцнае абурэнне, злосць = 11 _ 12 _ 13 _ 14 _;
3. Станіслаў Ежы, польскі сатырык у... Клецку = 15 _ 16 _ 9 _;
4. малы Сымон = 8 _ 7 _ 4 _ 10 _;
5. гомельская рака = 17 _ 2 _ 3 _.

(ш)

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | 14 | 15 | 16 | 17 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 21 нумара**

Брыдж, вол, газ, дым, Ева, жулік, Мао, Яга.

Рашэнне: **З вялікага грому малы дождж бывае**.

## 23.06 — 29.06

**(22.03. — 20.04.)** Не праварONь сустрэчы з вельмі цікавай асобай 23-25.06. Можаш далёка зайсці пры нагодзе трансфармуючага Плутона! Карыстай з нагоды, можа табе шмат чаго дастацца. Вельмі добры тыдзень у фінансах. Шмат мілых людзей, хоць не ад усіх чакай падтрымкі.

**(21.04. — 21.05.)** 25-29.06 вельмі паспяхова складуцца акалічнасці. Атрымаеш знакамітую прапанову. 23-25.06. будзеш схільны да нятрапных і вялікіх выдаткаў. 23-26.06. нявыкананыя абяцанні, парваныя дамовы могуць табе стаць калодамі ля ног. 25-29.06. Бык з пераломy другой і трэцяй дэкады: секс на першым рандэву рэдка калі вядзе да хэпі-энду! Можаш быць расчараваны, але ў фінансах маеш з гарачкі; могуць дастацца табе неспадзяваныя грошы, кампенсацыя.

**(22.05. — 22.06.)** Магчымы скрыгат у пары 23-26.06. 23-25.06. у фінансах варта быць больш асцярожным; не ашалей у краме пры прамоцыях і распродажах. Некаторыя справы пачнуць слімачыцца. Цяжка запанаваць над дэталямі, нялёгкія выбары. Партнёр заінспіруе цябе да новых дзеянняў. Будуць асобы, з якімі пагаворыш ад сэрца.

**(22.06. — 23.07.)** Будзеш старацца, аформіш усе справы, асабліва з паперамі і валакітай — справішся з гэтым прыпяваючы. Асвабодзішся з таксічных стасункаў. У пары можа пахаладзець. Магчымыя крайнія настроі ў пары, фанабэрыі. 23.06. можаш пазмагацца за павышэнне. Магчымыя новыя крыніцы прыбытку. 23.06. не ідзі на аперацыю.

**(24.07. — 23.08.)** 23-25.06 цябе ацэняць належным чынам. 25-29. могуць здзейсніцца твае мары. Усё добра, ды турбуюць цябе сумненні, будзеш менш адважны і баявіты, чым у папярэдніх тыднях. Адчуеш, што цябе кахаюць. Сур'ёзны і пазітыўны перелом у жыцці. Але не забудзь аб візіце ў лекара — запішы ў каляндарыку!

**(24.08. — 23.09.)** Трэба будзе змяніць штосьці ў планах. Але цяжкасці перакеуць у поспех. Ажыўленне, самаўпэўненасць. У час бяды падмога невядома адкуль. Ды могуць паявіцца скрыгаты — хтосьці не так зразумее твае намеры. Зваліцца табе на галаву шмат квітанцый і выдаткаў. На ўсякі выпадак схадзі да лекара, скантралюй здароўе. Запішыся на зумбу!

**(24.09. — 23.10.)** 23-26.06. лепш не дамаўляйся на рандэву, асабліва на першае, бо можа скончыцца скрыгатам і будзе яно апошнім. Незычлівыя асобы схочуць падважыць тваю кампетэнтнасць. Але 23-26.06. маеш падтрымку шэфа, апярэдзі іх. Венера мае для цябе пару фінансавых неспадзяванак. Будзеш шукаць моцных і рашучых — толькі пры такіх асобах жвавей заб'ецца тваё сэрца. Добры час пагасіць даўгі.

**(24.10. — 22.11.)** Не ўцякай перад праблемамі, бо іх развяжаш. Сонца прынясе табе шмат карысці. 25-29.06. пачне круціцца каля цябе ўпарты паклоннік. Калі ты закалёны сінгл, яго старанні хіба яму не ўдадуцца. Палравяцца адносіны з супрацоўнікамі (будуць патрабаваць тваёй дапамогі). Можаш сустрэць братнюю душу. Еж парасткі, зерне і арэхі.

**(23.11. — 22.12.)** 23-25.06. выкараскаешся, прыгожа, з найбольшых турбот; набяруць румянца твае сардэчныя справы. Ты цяпер — інспірацыя для іншых, можаш таксама атрымаць цікавую прапанову. Бярыся за працу! Ды будзь вельмі асцярожны з машынамі і вострымі прадметамі, і не еж нясвежага.

**(23.12. — 20.01.)** 25-29.06. магчымыя ўскладненні ў фінансавых справах. Старайся не рэагаваць на ўсё лішне эмацыянальна. Сярод радні спрэчкі, замяшанне, неспадзяваныя весткі; асабліва задумы дзяцей могуць давесці цябе да абмарока. 25-29.06. можаш змяніць фірму. Не бярыся за ніякія няпэўныя інвестыцыі, крэдыты, пазыкі, нават калі б мелі гэта быць залатыя горы. Не цягайся па шынках, пашукай лепш знаёмстваў у інтэрнэце.

**(21.01. — 19.02.)** 25-29.06. адчуеш самаўпэўненасць, будзеш добра бараніць свае пагляды. 23-25.06. можаш моцна закахацца. Ці ты свабодны, ці не, 25-29.06. не ўлезь у небяспечны раман або не выклік кампанейскага скандалу. Шкодзіць табе будзе электрамагнітны смог, пасля даўжэйшай працы за камп'ютарам ідзі на доўгі шпацыр, найлепш у лес. Неабходнасць паправіць памылкі, але не напарыся сам на ражон. На працы ўдачы і мілая атмасфера.

**(20.02. — 21.03.)** Мноства задум, дзякуючы якім зазззяеш на працы і ў кампаніі. Могуць цябе турбаваць уласныя пярэпалахі. 23-25.06. цяжкі час у пары для Рыб з II дэкады; старайцеся больш быць разам; насіце чырвонае — гэты колер распальвае жарсці. Квадратура Венеры і Нептуна (22-26.06.) можа падвергнуць цябе фінансавым стратам. Трымайся канкрэтнага, не вер у абяцанні і гожыя слоўцы. Ва ўстановах чакаюць цябе перашкоды фармальнай натуры; не злуйся. Час роздуму, медытацыі, малітвы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

Выдавец: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня: Яўген Вапа.
Адрас рэдакцыі: 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
Тэл./факс: (+48 85) 743 50 22.
Internet: http://niva.bialystok.pl/
E-mail: redakcja@niva.bialystok.pl
Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.
Галоўны рэдактар: Яўген Вапа.
Намеснік гал. рэдактара: Віталь Луба.
Тэхнічны рэдактар: Адам Паўлоўскі.
Рэдактар „Зоркі": Ганна Кандрацюк-Свярубская.
Публіцысты: Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
Канцылярыя: Галіна Рамашка.
Друкарня: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą: kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
Prenumerata krajowa
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7 00 – 18 00.
Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
Nakład: 1 000 egz.

# У Міжземнае мора

З 11-га раздзела Евангелля ад Іаана: «Непадалёку ад Іерусаліма знаходзілася пасяленне Віфанія. Там жылі Лазар і яго сёстры Марфа і Марыя. Яны былі добрымі прыяцелямі Ісуса. Аднойчы Ісус атрымаў смутную вестку пра хваробу Лазара. Лазар захварэў і сёстры паведамілі Ісусу: „Госпадзе, вось той, каго Ты любіш — хворы”. Ісус, пачуўшы гэта, сказаў: „Гэта хвароба не на смерць, а на Божую славу, няхай праславіцца праз яе Сын Божы”. Яшчэ два дні прабыў Ён у той мясціне, дзе застала Яго нядобрая вестка, а калі прыйшоў у Віфанію, Лазар ужо не жыў. Чатыры дні ён ляжаў у магіле. Неўзабаве, калі Ісус убачыў Марыю, як плакала яна, калі ён убачыў іудзеяў, як плакалі яны, дык і Сам вельмі засмуціўся духам і спытаўся: „Дзе вы яго пахавалі?” Яму адказалі: „Госпадзе, ідзі паглядзі.” Ісус падышоў да пячоры, у якой пахавалі Лазара і загадаў адваліць камень, але Марфа сказала, што Лазар ужо чатыры дні як у магіле. Ісус адказаў ёй: „Ці не сказаў Я табе, што калі будзеш верыць, дык убачыш славу Божую”. Калі камень адвалілі, Ісус узвёў у неба вочы і сказаў: „Ойча, дзякую Табе, што Ты пачуў Мяне. Я ведаў, што Ты заўсёды чуеш Мяне”. Сказаўшы так, Ён гучным голасам паклікаў: „Лазар, выйдзі!” і выйшаў Лазар, абвіты палатном з галавы да ног. Многія іудзеі, убачыўшы такі цуд, адразу паверылі ў Ісуса. Але фарысеі і першасвяшчэннікі зрабілі інакш. Цуд іх напалохаў і яны сабралі нараду. На ёй абмяркоўвалі план, як забіць Ісуса... „Першасвятары ж пастанавілі забіць і Лазара, бо многія з іудзеяў адыходзілі ад іх і верылі ў Ісуса”» (Іаан, 12: 10).

І пачалося ганенне не толькі на Ісуса, але і на ягоных блізкіх, у тым ліку і на Лазара і ягоных сямейнікаў. Лазар вымушаны быў уцякаць як найдалей ад Віфаніі, як найдалей ад Іерусаліма. Куды ён падаўся ў бежанства, дакладна неадназначна. Паводле адной з легенд члены віфанійскай сям'і былі выгнаны на мора ў лодцы без вёслаў і ветразей і пасля цудоўнага падарожжа апынуліся ў Правансе, на поўдні сённяшняй Францыі. Там яны раздзяліліся і прапаведавалі хрысціянства. Лазар апынуўся ў Марселе, дзе прыцягнуў шмат людзей да новай веры і стаў епіскапам Марселя. У час чарговых ганенняў рымскімі імператарамі ён быў укінуты ў турму і абезгалоўлены. Пахавалі яго ў Ацён у Бургундыі, дзе пазней быў узведзены сабор пад яго заступніцтва...

Аднак найбольш папулярная легенда паведамляе, што Лазар апынуўся на Кіпры, у сённяшняй Ларнацы, дзе ў час прапаведніцкага падарожжа апосталы Павел і Варнава назначылі яго кіцийскім епіскапам, бо раней быў там горад Кітыён. Лазар пражыў на Кіпры трыццаць гадоў і пасля ягонай другой смерці ў 63 годзе н.э. быў там пахаваны. Нялёгкае было гэта жыццё, бо ж на Кіпры ўсё яшчэ ж моцна трымаўся культ Афрадыты і да таго ж жылі там і яўрэі, напоўненыя тым жа духам, што і іх супляменнікі ў Іерусаліме.

Іншая легенда вяшчае, што Лазар пасля свайго ўваскрашэння ніколі не ўсміхаўся. Ён быў засмучаны лёсам незбаўленых душ, якія ён пабачыў у час свайго чатырохдзённага патойбаковага прабывання. Усміхнуўся ён толькі аднойчы, калі пабачыў злодзея, які ўкраў збан; Лазар тады сказаў „Прах крадзе прах”. Яшчэ іншая легенда падае, што Лазар вельмі тужыў па Дзеве Марыі і ён паслаў лодку па яе і Ісусавых вучняў. Калі яны выплылі са Святой Зямлі, узняўся шторм, які занёс лодку на Эгейскае мора, на паўвостраў Афон. Там пасажыры лодкі перавялі ў хрысціянства і блаславілі будучых змагароў за добрую веру, паплылі на Кіпр, спаткаліся з Лазарам, якому Марыя ўручыла ўласнаручна сатканы палій, і вярнуліся ў Святую Зямлю...

Астанкі святога Лазара на Кіпры былі знойдзены ў 890 годзе ў мармуровым саркафагу, на якім быў надпіс з ягоным імем. Тады візантыйскі імператар Леў X загадаў перавезці астанкі святога ў Канстанцінопаль. Прызначыў ён таксама грошы на ўзвядзенне ў месцы знаходкі новай царквы, якая і стаіць там па сённяшні дзень. Аднак жыхары Ларнакі прыхавалі частку астанкаў у сябе... У 1204 годзе Канстанцінопаль занялі крыжаносцы, забралі адтуль рэліквіі і перавезлі іх у Марсель...


Царква святога Лазара ў Ларнацы

Царква святога Лазара ў Ларнацы таксама займела багатую гісторыю. Яна пабудавана з каменных блокаў у даўнім візантыйскім стылі. У гістарычных апісаннях згадваецца высокая званіца, якую, верагодна, узвялі сярэднявечныя лацінскія ўладары Кіпра, а якую пазней раскідалі туркі; сучасная званіца была ўзведзена ў 1857 годзе. Туркі забаранялі званіцы у цэрквах, але ў Ларнацы гэтая забарона не была такою моцнай, бо там былі розныя замежныя кансулаты. Таксама на царкве былі тры купалы, якія туркі загадалі разбурыць, бо нагадвалі купалы мячэцяў. Цяперашні іканастас быў збудаваны ў канцы XVIII стагоддзя. У ніжнім радзе трынаццаць больших ікон і па трыццаць у двух верхніх радах. Мяркуецца, што ў першых гадах свайго існавання царква была праваслаўным манастыром. Пазней крыжаносцы зладзілі там манастыр бенедыкцінцаў. Нейкі час была там царква армянскага абраду. У 1570 годзе храм занялі туркі, ад якіх праваслаўныя адкупілі яго ў 1589 годзе. Але і католікам дазвалялася адпраўляць там двойчы ў год набажэнствы; гэтая прывілея была скасавана ў 1794 годзе, бо лацыннікі дамагаліся саўладання царквой. Царква святога Лазара была на працягу двух стагоддзяў, з паловы XVIII да паловы XX, грамадскім цэнтрам горада: рэлігійным, нацыянальным, дабрачынным і адукацыйным...


Рэліквіі св. Лазара


Саркафаг св. Лазара

У царкве святога Лазара, якая адкрыта для агульнага наведвання, адбываюцца таксама набажэнствы. Выглядаюць яны крыху інакш чым у нас. У царкве крэслы, не прадбачана стаячых месцаў. Частка крэслаў, каля дваццаці з левага боку і столькі ж з правага, з абіўкай. І на тых спецыяльных крэслах дазваляецца сядзець з левага боку толькі жанчынам, а з правага — мужчынам; пра гэта інфармуюць кволенькія таблічкі на грэчаскай мове. Апошнія крэслы без абіўкі і на іх можна сядаць як хто хоча. Калі хто пра такое правіла не ведаў, то падыходзіла да яго жанчына і загадвала перасесціся; яна ўмела і па-расейску. У час нядзельнага набажэнства, на якім удалося мне прысутнічаць, „мужчынскае” месца заняла жанчына афраамерыканскага выгляду; жагналася яна па-праваслаўнаму. Святоша падышла да яе, каб адправіць у „правільнае” месца, але паколькі першая не ведала кіраванай да яе мовы, то і асталася непарушнай. У нас жаночыя святошы апрануты ў прыстойныя спадніцы і хусткі; у царкве святога Лазара шмат тамашніх верніц у нагавіцах і з адкрытымі галовамі. Магчыма, што такім чынам яны паказваюць сваю „еўрапейскасць”, у адрозненне ад „азіяцкіх” мусульманак...

І набажэнства выглядае інакш чым у нас. Не было хору; спявала некалькі мужчын. Выконвалі яны манодыі, якіх мелодыка нагадвала фальклорныя спевы народаў шырокага Леванта і Сярэдняй Азіі, нават здалося мне, што часам былі яны падобныя да традыцыйных мангольскіх. Відаць, пануе там іншая чым у нас традыцыя — Кіпрская царква, пакуль атрымала аўтакефалію ў 431 годзе, была пад Антыёхскім патрыярхатам, а з Кіпра ў Сірыю раптам каля двухсот кіламетраў мора... Можна было адчуваць сябе там як на экзатычным народным канцэрце, але паколькі *udawać Greka* і сядзець як *na tureckim kazaniu* не разумеючы нічога з набажэнства было не надта сэнсоўна, прыйшлося вытрываць там толькі паўтары гадзіны...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

ISSN 0546-1960 25